



# Рэгіянальная газета

15 лістапада 2013 года
№ 46 (968)

http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".







Былы вілейскі пракурор Уладзімір Дубоўскі цяпер працуе ў Маладзечне. Ён даў інтэрв'ю "РГ".

4-я старонка



"Маладзевы парк" па вуліцы Міру. Няма праблем?

20-я старонка

**Расклад руху цягнікоў** па станцыі Маладзечна

3-я старонка



## навіны рэгіёна

### Роберт Зубайраў пакінуў крэсла пракурора

**МАЛАДЗЕЧНА**. Цягам пяці гадоў Роберт Зубайраў займаў пасаду пракурора Маладзечанскага раёна. Ад 14 кастрычніка яго пасаду заняў былы пракурор Вілейскага раёна **Уладзімір Дубоўскі** (інтэрв'ю з ім чытайце на 4-й старонцы). Тым часам Роберт Равільевіч заняў пасаду намесніка начальніка Мінскай абласной інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.

### Прадставяць калекцыю, якая ніколі не экспанавалася

**СМАРГОНЬ**. Да снежня гісторыка-краязнаўчы музей рыхтуе выставу па нумізматыцы (гісторыя манетнай чаканкі і грашовага абароту) і баністыцы (гісторыя грашовых знакаў і бонаў). Гэта фондавая калекцыя мае вялікую каштоўнасць і ніколі не экспанавалася. Музею даводзіцца не проста, бо няма патрэбнага выставачнага абсталявання і супрацоўнікі ўсё рыхтуюць самі, распавяла дырэктар музея **Любоў Белуш**. Цяпер якраз ствараюць планшэты. Сярод экспанатаў – манеты з розных краін ад часоў ВКЛ да сённяшняга дня. Ёсць і вельмі рэдкія, якія амаль нідзе не пабачыш. Папяровыя грошы прадстаўленыя ад канца 19 стагоддзя. Як адзначыла Любоў Белуш, музей будзе імкнуцца не толькі паказаць экспанаты, але і расказаць пра іх гісторыю. Плануецца змясціць старыя тэматычныя фотаздымкі і актыўна ўжываць мультымедыя.

### У Ашмянах пабудуюць новы завод

**АШМЯНЫ**. Аўстрыйскі інвестар плануе пабудаваць у Ашмянскім раёне завод па вытворчасці дражджавога экстракту. Плануецца, што прадпрыемства будзе выпрацоўваць натуральныя харчовыя і кармавыя дадаткі з адходаў цукровых буракоў для харчовай прамысловасці. Аб'ём інвестыцый па праекце складзе каля 20 мільёнаў еўра. Сярод іншых інвестыцыйных праектаў, якія рыхтуюцца да рэалізацыі ў Ашмянскім раёне, – будаўніцтва лагістычнага цэнтра з аб'ектамі прыдарожнага сэрвісу (гасцініцай, кафэ і станцыяй тэхабслугоўвання) паблізу пункта пропуску "Каменны Лог". Таксама перспектыўнымі з'яўляюцца праекты, якія цяпер рыхтуюцца ў раёне, – стварэнне вытворчасці разавага экалагічна чыстага посуду на аснове кароткага льновалакна і паклі, святлотэхнічных вырабаў на нязменных крыніцах святла (святлодыёдах), будаўніцтва комплексу па глыбокай перапрацоўцы кукурузы. За студзень – верасень 2013 года аб'ём інвестыцый у асноўны капітал па Ашмянскім раёне склаў больш за 280 мільярдаў рублёў. Зарэгістравана 31 новае прадпрыемства, вялікая іх частка – гэта прадпрыемствы гандлю і паслуг.

**Аддзел інфармацыі.**

# Жменька роднай зямлі на магілу прапрадзядулі



Фота Наталлі ТУР.

Тры пакаленні адной сям'і ў "Шталагу-342".

**МАЛАДЗЕЧНА. Шостага лістапада ў Маладзечна завіталі тры пакаленні сям'і з расійскага горада Самара, каб пакланіцца месцу, дзе скончыў жыццёвы шлях іх бацька, дзядуля, прадзядуля Ягор Нікіфаравіч Рошчын.**

Дзядулю прызвалі на фронт недзе ў канцы 1941 года, – расказвае ўнучка Ягора Рошчына **Лідзія Каціна**. – Спачатку мама расказвала толькі пра тое, што эшалон, з якім яе бацька адпраўляўся на фронт, трапіў пад бамбёжку. Доўгі час лічылася, што ён прапаў без вестак.

Ужо потым я і мае дзеці сталі шукаць інфармацыю пра Ягора Нікіфаравіча Рошчына, але адказ на свае пытанні атрымалі толькі ў 2011 годзе. У інтэрнэце знайшлі інфармацыю пра тое, што дзядуля трапіў у палон і 15 красавіка 1942 года апынуўся ў Маладзечне, у лагеры "Шталаг-342".

Мы з сям'ёй праехалі амаль 2000 кіламетраў, каб паказаць прапраўнуку месца, дзе загінуў яго прапрадзядуля. З сабой мы прывезлі зямлю ад той хаты, з якой у 1941 годзе праводзілі на фронт 39-гадовага Ягора Рошчына… каб ужо ніколі не вярнуцца. А ў Самары доўгія гады чакала яго жонка і трое дзяцей.

Я нарадзілася ўжо пасля вайны, таму ведала дзядулю толькі па адзіным фотаздымку, што захаваўся ў нашай сям'і. Цяпер у Самары жыве малодшая дачка Ягора Нікіфаравіча, мая маці.

Ведаць пра лёс дзядулі – гэта наш доўг, наша памяць. Гэта святы абавязак усёй сям'і.

**Лідзія Князева**, кіраўнік клуба "Пошук", расказвае:

– Клуб "Пошук" працуе ўжо 26 гадоў, знойдзеныя 1066 чалавек, але за гэты час я так і не навучылася адносіцца да гэтага спакойна. Хоць да нас амаль штотыдзень прыязджаюць сваякі тых, хто загінуў у "Шталагу", але кожны раз такія сустрэчы праходзяць праз самае сэрца. Вось літаральна праз дзень пасля візіту гасцей з Самары да нас завітаў унук **Ціхана Іванавіча Сцепаненкі**, чырвонаармейца, які быў прызваны на фронт з Алтайскага краю, трапіў у палон і загінуў тут, у "Шталагу-342". **Уладзімір Пятрэнка**, унук Ціхана Іванавіча, прыехаў у Маладзечна з Ніжнявартаўска. Ён пераадолеў 3000 кіламетраў, каб на свае вочы пабачыць месца, дзе абарваўся жыццёвы шлях яго дзядулі.

Лідзія Князева гаворыць, што імя Ягора Нікіфаравіча Рошчына і Ціхана Іванавіча Сцепаненкі ў ліку іншых 159 імёнаў будзе занесенае на памятную дошку "Шталага-342". Магчыма, у наступным годзе, да Міжнароднага дня вызвалення вязняў фашысцкіх канцлагераў, 11 красавіка, дошка будзе ўсталяваная.

Калі рыхтаваўся нумар, Лідзія Князева паведаміла, што цягам некалькіх дзён да 159 ужо вядомых імёнаў дадаліся 40 новых, якія таксама будуць занесеныя ў памятную дошку "Шталага-342".

**Наталля ТУР.**

ТЭМА З ВАРЫЯЦЫЯМІ

# Мікалай Дзінаў доўга адседжваўся ў запасных гульцах




У глядацкай зале Мінскага абласнога драматычнага тэатра.

**МАЛАДЗЕЧНА. Мінскаму абласному драматычнаму тэатру доўга не шанцавала з галоўнымі рэжысёрамі – лідарамі. Цяпер там усё стабільна.**

Па незразумелых прычынах з тэатра сышоў яго шматгадовы мастацкі кіраўнік заслужаны дзеяч культуры Беларусі **Мікалай Мацкевіч**, хоць ён па-ранейшаму жыве ў Маладзечне і мог бы працаваць. Але так здарылася, і тэатр стала ліхаманіць. Акцёры тут заўсёды былі добрыя, а новыя рэжысёры надоўга не прыжываліся. І ўсё ж тэатр сумленна абслугоўваў свой рэгіён казкамі і лёгкімі камедыямі і марыў стварыць што-небудзь значнае і прабіцца на які-небудзь фестываль.

Забавы змешваліся з немудрагелістым асветніцтвам і школай жыцця, не занадта прыцягваючы гледачоў у сваю працу як саўдзельнікаў. Ёсць гэтаму тлумачэнне. Дарослае працаздольнае насельніцтва ездзіць у Мінск на заробкі, і тэатральны дом яго мала цікавіць. І ўсё ж пры малых заробках, праблемах з жыллём, адсутнасці падзаробкаў у маладзечанскім тэатры склаўся моцны прафесійны калектыў, які часам раптам ярка і таленавіта заяўляў пра сябе.

У тэатры з'явіўся малады і актыўны дырэктар **Юрый Крывенькі**, які стаў шукаць мастацкага кіраўніка са сваіх, беларускіх рэжысёраў. Так у мінулым сезоне калектыў ўзначаліў **Мікалай Дзінаў**. Чалавек немалады, з нажытым вопытам акцёрскай, рэжысёрскай і кінематаграфічнай працы, добра ведае мясцовыя перыферыйныя перавагі і не пазбаўлены амбіцый. Ён любіць ствараць аўтарскія спектаклі, у якіх, магчыма, не занадта ўтульна драматургу, але затое няма радыкальных сэнсавых пераліцовак і шарад.

Даволі даўно ён зачапіўся за п'есу беларускага драматурга Ірыны Пісьменнай "Падобны на Стынга", якая апавядае аб наступствах чарнобыльскай трагедыі. Летась Ірына Пісьменная стала дыпламантам Сусветнага кангрэса драматургаў у Стакгольме. Рэжысёр зрабіў спектакль у стылі рэтра, пераплятаючы мінулае, сучаснасць, будучыню і суправадзіўшы яго вельмі дакладным выказваннем Поля Элюара: "І эпапея мінае... І толькі вечны, вечны смяротны чалавек".

Няцяжка здагадацца, што гаворка ідзе пра жыццястойкасць і веліч чалавека. Адкінуўшы пафас, можна канстатаваць: старая тэма здольная закрануць за жывое. Ды яшчэ як!

У крыху заблытаную гісторыю з ланцугом несправядлівасці і неразумення заязджаеш са сваімі сённяшнімі адчуваннямі і здагадкамі. Чарнобыльская трагедыя не забудзецца ніколі. Яна (яна ж Феня) засталася жыць у зоне адчужэння. Ён (ён жа Юра, ён жа Ванька) збег з месцаў зняволення.

Ён – малады, раззлаваны, агрэсіўны, які ўвесь час і ад усіх чакае падвоху. Яго недавер да людзей гіпертрафіраваны.

Яна – жанчына без узросту, якая змірылася з адзінотай і грубым побытам.

Канкрэтныя імёны да іх неяк не прыляпіліся. Не прыжыліся. Магчыма, таму, што ў турме і пакінутай вёсцы цёплае, дадзенае маткай імя, гучыць радка. Толькі здаецца, што гэта людзі рэальныя. Яны ў п'есе і спектаклі паднятыя над зямным, плоцевым, бытавым. Нам цікавыя іх думкі, іх пачуцці, іх недараванне і дараванне ўсяго. Яны доўга і пакутліва ідуць адзін да аднаго, каб знайсці сябе, зразумець і падставіць плячо адно аднаму. Яны раздвойваюцца ў люстэрку сноў, успамінаюць крыўды, ператвараюцца ў біяробатаў і вяртаюцца на грэшную зямлю.

Пры гэтым спектакль пазбаўлены сентыментальнасці і заснаваны на напружанні акцёрскай энергіі. Пафас сітуацый пастаянна ўраўнаважваецца жаданнем прабіцца да чалавечнасці ў чалавеку. Высока над тэатральным памостам ланцуг ліхтарыкаў, лямпачак, зорак. Дакладней, ланцуг агеньчыкаў, якія нагадваюць пра сузор'і і касмічныя свяцілы, якія цягнуць да нас на Зямлю свае слабыя ніткі. Напэўна, гэта метафара сведчыць аб тым, што з душамі на сцэне і ў зале нешта важнае адбываецца. Дзінаў прыдумаў спектакль, у якім ёсць саюз аўтара, рэжысёра і акцёра, які падмацаваны выразнай музыкай **Алега Залётнева** і сцэнаграфіяй **Валерыя Юркевіча**. Па-сапраўднаму гіпнатызуюць гледачоў акцёры **Ірына Кляпацкая** і **Аляксей Карпец** у галоўных ролях. Гэта ім належыць ода пра вечнасць смяротнага чалавека.

Мікалай Дзінаў доўга адседжваўся ў запасных гульцах. Атрымаўшы цікавую працу, рэжысёр выкладваўся напоўніцу, нават з лішкам фантазіі і асабістымі выказваннямі. Сітуацыя ў Маладзечне – прыклад таго, што свайго рэжысёра своечасова заўважылі, нагрузілі працай і дамагліся ўражлівага выніку.

**Таццяна АРЛОВА,**
**тэатральны крытык, "Рэспубліка".**

ПРЭМ'ЕРЫ

# Няпростая казачка пра зверанят

**МАЛАДЗЕЧНА. Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка" да 24 лістапада рыхтуе прэм'еру спектакля "Церамок".**

– Здавалася б, якая тут задума? – кажа галоўны рэжысёр **Мікалай Андрэеў**. – Скажы любому чалавеку "Церамок", і ўсе пачынаюць: "Ой, казачка! Пра зверанят". Хаця інтэрпрэтацый у казкі можа быць вельмі шмат.

"Батлейка" абрала для сябе версію рускага драматурга Самуіла Маршака.

– Падаецца, звычайная казка, – працягвае спадар Мікалай. – Мышкі, пеўнікі, вожыкі, воўк, ліса, заяц... Але ў Маршака напераддзе філасофская думка. Ён бярэ дабро і зло і паказвае іх праз двух дзядоў, якія распавядаюць дзецям казку. У нашым варыянце дзяды і расказваюць, і іграюць. Толькі ў нас у тэатры народ малады, дзядоў няма, таму мы іхператварылі ў двух клоўнаў.

**– У чым жа філасофія?**

– Мы не проста расказжам дзецям казку, а будзем імкнуцца зрабіць так, каб яны акунуліся ў філасофію ўзаемаадносін дабра і зла. Чаму адны героі злыя? Чаму іншыя – добрыя? Я вельмі люблю, калі ў тэатры ігра пераплецена з нармальным спакойным апавяданнем. Гэта ўцягвае гледачоў, ад гэтага яны проста ў захапленні.

## У галоўных ролях

Роля сумнага клоўна дасталася вядучаму майстру сцэны **Міхаілу Асановічу**. Ён іграе ў "Батлейцы" ўжо цягам 19 гадоў. А вясёлага – маладому акцёру **Дзянісу Валахановічу**.

Дзяніс прыйшоў у тэатр сёлета пасля заканчэння навучання акцёрскаму майстэрству ў каледжы гімназіі-каледжа мастацтваў Маладзечна. "Церамок" – яго першая прэм'ера на сцэне "Батлейкі". Аднак роля – зусім не.

– Клаўнаду люблю з дзяцінства, – прызнаецца Дзяніс. – Калі быў маленькі, смяшыў дарослых, капіраваў галасы знакамітасцяў ды суседзяў. Нават гісторыю магу расказаць...

## Як здабывалі аўтамат

Быў у майго суседа па інтэрнаце дзед. Сусед, Ягор, паехаў на лецішча, а дзед застаўся. І вось мы неяк з сябрамі пайшлі гуляць у вайну. Раптам успомнілі, што ў Ягора ёсць класны аўтамат, але ж Ягора няма. Вырашылі, што калі я пачну размаўляць голасам Ягора, то раздабудзем аўтамат. Тады нават і не падазравалі, што некалькі сем'яў з інтэрната чулі пра нашы планы, але маўчалі і назіралі. Карацей, пагаварыў я з дзедам голасам яго ўнука, той перапужаўся і вынес нам аўтамат. Суседзі рагаталі доўга.

**– Калі ўпершыню пабачыў клоўнаў?**

– У мінскім цырку. У школе потым увесь час выдумлялі нейкія фокусы, паўтаралі за клоўнамі. Я ўсё гэта арганізоўваў. Потым у каледж паступіў, таксама гэтай справы не кінуў. Але разумею, што да сапраўднай клаўнады мне яшчэ ой як далёка.

**– Ці сышоўся вобраз твайго клоўна з тым, што ў спектаклі?**

– Праводзіць дзіцячыя святы ў вобразе клоўна – адно. Там больш клоўн-арганізатар. Тут жа трэба быць сапраўдным клоўнам-хуліганам. Даўненька я не хуліганіў, мабыць, з класа 9-га. Вось і цяжка пераскочыць. Ды і досведу ў тэатры мала. Міша тут усё як семкі шчоўкае, а мне даводзіцца цяжкавата.

## Па-беларуску ці па-руску

Спектакль "Церамок" будзе ісці на рускай мове. На думку галоўнага рэжысёра Мікалая Андрэева, спектакль трэба ставіць на мове арыгінала тэксту п'есы.

– Апошнім часам мяне вельмі моцна турбуе нядобрая тэндэнцыя, калі падчас прагляду беларускамоўнага спектакля падыходзяць бацькі і кажуць, што "дзіцяці не зразумець". На рускія спектаклі больш ходзяць. Аднак пакуль у тэатры рускамоўных спектакляў менш за палову. Прыходзьце да нас – у тэатры заўсёды весела. Пасля спектакля ўвогуле шаленства – танцы ды гульні. Я заўсёды кажу: "Дзеці, вы прыйшлі ў тэатр, дзе можна рабіць усё, што хочацца, – бегаць, скакаць, але пасля спектакля. На спектаклі мы сядзім і слухаем".



**Настасся РОЎДА**
E-mail: nastya.rovdo@gmail.com
Skype: nastya_rovdo

## Расклад руху цягнікоў па станцыі Маладзечна ад 27 кастрычніка 2013

| № цягні-ка | Маршрут | Адпраўленне ад пачатковай станцыі | Па ст. Маладзечна прыбыццё | стаянка | адпраўленне | Прыбыццё на канцавую ст. | Дні курсіравання |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **29** | Масква-Калінінград | 14:29 | 0:29 | **3** | 0:32 | 11:27 | штодзённа |
| **625** | Мінск-Віцебск | 23:00 | 0:20 | **30** | 0:50 | 7:35 | штодзённа |
| **634** | Магілёў-Гродна | 19:09 | 1:10 | **2** | 1:12 | 5:35 | няцотныя |
| **623** | Віцебск-Гродна | 18:50 | 1:10 | **2** | 1:12 | 5:35 | цотныя |
| **148** | Калінінград-Масква | 16:56 | 1:59 | **3** | 2:02 | 15:21 | аўторак, субота |
| **77** | Масква-Гродна | 17:08 | 3:42 | **6** | 3:48 | 8:31 | штодзённа |
| **360** | Калінінград-Адлер | 19:03 | 4:01 | **2** | 4:03 | 8:07 | **па чыслах: 3, 7, 11, 15, 19, 23, 27** |
| **626** | Віцебск-Мінск | 21:30 | 4:07 | **36** | 4:43 | 6:06 | штодзённа |
| **5** | Масква-Вільня | 18:55 | 4:41 | **3** | 4:44 | 7:00 | штодзённа |
| **88** | Рыга-Мінск | 18:35 | 6:15 | **30** | 6:45 | 8:05 | штодзённа |
| **38** | Вільня-Мінск | 5:55 | 8:24 | **2** | 8:26 | 9:25 | штодзённа |
| **147** | Масква-Калінінград | 21:44 | 8:27 | **2** | 8:29 | 19:40 | серада, нядзеля |
| **15** | Мінск-Вільня | 7:40 | 8:40 | **2** | 8:42 | 9:10 | штодзённа |
| **201** | Мінск-Вільня | 8:45 | 9:50 | **2** | 9:52 | 11:33 | субота, нядзеля |
| **79** | С.-Пецярбург-Калінінград | 20:10 | 9:59 | **15** | 10:14 | 21:14 | па няцотным |
| **630** | Гродна-Мінск | 6:16 | 10:15 | **3** | 10:18 | 11:24 | штодзённа |
| **13** | Мінск-Вільня | 10:18 | 11:18 | **2** | 11:20 | 12:05 | штодзённа |
| **14** | Вільня-Мінск | 13:58 | 16:45 | **2** | 16:47 | 17:45 | штодзённа |
| **629** | Мінск-Гродна | 16:17 | 17:28 | **4** | 17:32 | 21:20 | штодзённа |
| **693** | Мінск-Полацк | 17:10 | 18:16 | **29** | 18:45 | 22:52 | ад 01.11.2013 па пятніцах |
| **80** | Калінінград-С.-Пецярбург | 10:02 | 18:55 | **13** | 19:08 | 11:06 | па няцотным |
| **37** | Мінск-Вільня | 18:50 | 19:50 | **2** | 19:52 | 20:20 | штодзённа |
| **16** | Вільня-Мінск | 17:14 | 19:42 | **2** | 19:44 | 20:41 | штодзённа |
| **6** | Вільня-Масква | 15:55 | 20:24 | **2** | 20:26 | 9:01 | штодзённа |
| **359** | Адлер-Калінінград | 14:25 | 20:13 | **2** | 20:15 | 7:24 | 7,11,15,19, 23,27 |
| **634** | Гродна-Магілёў | 16:00 | 21:20 | **8** | 21:28 | 5:27 | няцотныя |
| **624** | Гродна-Віцебск | 16:00 | 21:20 | **8** | 21:28 | 4:50 | цотныя |
| **78** | Гродна-Масква | 16:56 | 21:44 | **4** | 21:48 | 10:26 | штодзённа |
| **30** | Калінінград-Масква | 13:06 | 22:09 | **3** | 22:12 | 9:27 | штодзённа |
| **87** | Мінск-Рыга | 22:26 | 23:38 | **27** | 0:05 | 9:35 | штодзённа |
| **202** | Вільня-Мінск | 19:54 | 23:38 | **2** | 23:40 | 0:45 | субота, нядзеля |

### Маладзечна-Мінск / Мінск-Маладзечна

| № ц. | Час адпраўлення | Час прыбыцця | Прыпынкі, дні курсіравання, шляхі зносін | № ц. | Час адпраўлення | Час прыбыцця | Прыпынкі, дні курсіравання, шляхі зносін |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **6102** | 4:14 | 5:58 | б/прыпынку: | **6101** | 0:26 | 2:06 | б/пр: Татар.,Сел. |
| **6104** | 5:16 | 7:00 | б/пр: Крыжоўка, Мінскае м. | **6103** | 4:37 | 6:09 | б/пр: Мін. мора, Крыжоўка, Зялёнае, Хмелеўка Анусіна, Вязынка, Пралескі |
| **6108** | 5:53 | 7:39 | | **6105** | 5:18 | 7:01 | |
| **6110** | 6:25 | 8:15 | штодз. да Бабруйска прыб. у Бабруйск 11:51 б/пр: Зялёнае,Крыжоўка, Мінскае М. | **7135** | 6:02 | 7:20 | Мінск-Мал.: з прып. Ждановічы, Мінск-паўн. далей дызель-поезд да Гудагая, б/пр: Гауці, Скрэсц., Каменка |
| **6112** | 7:30 | 9:10 | б/пр: Зелёнае, Крыжоўка, Ратамка, М.Мора | **6107** | 6:35 | 8:19 | Штодзённа з Барысава ў 04:32 |
| **6116** | 8:42 | 10:29 | | **6109** | 7:47 | 9:31 | |
| **7336** | 9:20 | 10:41 | Прыпынкі: Ждановічы, Мінск-паўн. | **6111** | 8:52 | 10:37 | |
| **6118** | 9:51 | 11:45 | | **6113** | 9:26 | 11:10 | |
| **6120** | 11:00 | 12:44 | | **6115** | 10:50 | 12:38 | |
| **6768** | 12:39 | 14:17 | па пятн. і выхад. б/пр: Раманы, Хмелеўка, Зялёнае | **6119** | 11:53 | 13:37 | |
| | | | | **6121** | 12:45 | 14:32 | |
| **6122** | 13:13 | 14:59 | | | | | |
| **6124** | 14:49 | 16:31 | да ст. Мінск-паўночны | **6771** | 14:50 | 16:35 | б/пр: Селівонаўка |
| **6126** | 15:51 | 17:37 | | **6123** | 15:33 | 17:19 | |
| **6128** | 17:02 | 18:49 | | **6125** | 16:33 | 18:17 | |
| **6130** | 17:50 | 19:30 | б/пр:Зялёнае,Крыжоўка, Мінскае мора | **7337** | 17:55 | 19:18 | ад Мінска да Мал. з пр. Ждан., Мінск-Паўн., далей Маладз-Гудагай, з прып. па стан. і пр.п Маладзёжны |
| **6776** | 18:35 | 20:13 | панядз, аўт, серада, чацвер. Да ст. Алёхнавічы б/пр.Ад Алёхнавічаў да Мінска б/пр: Зялёнае, Крыжоўка, Мінскае м. | | | | |
| **6132** | 18:45 | 20:32 | | **6127** | 17:27 | 19:11 | б/пр: Крыжоўка |
| **6134** | 19:52 | 21:37 | б/пр: Селівонаўка | **6129** | 18:15 | 20:03 | б/пр:Крыж., Мін. м.,Зялёнае |
| **6136** | 20:41 | 22:25 | | **6131** | 19:45 | 21:24 | б/пр:Крыжоўка, Мінскае м.,Зялёнае |
| | | | | **6133** | 20:44 | 22:36 | |
| **7338** | 21:14 | 22:36 | Гуд.-Мал. з прып. па станцыях і прып.п Маладзёжны, далей Маладзечна-Мінск з прып: Жданов., Мінск паўн. | | | | |
| **6138** | 22:20 | 23:57 | б/пр:Раманы, Пралескі, Хмелеўка, Зялёнае, Крыжоўка | **66135** | 21:50 | 23:29 | б/пр:Мясата, Таршчызна, Крыніца, Селівонаўка |

### Маладзечна-Гудагай / Гудагай-Маладзечна

| № ц. | Час адпраўлення | Час прыбыцця | Прыпынкі, дні курсіравання, шляхі зносін | № ц. | Час адпраўлення | Час прыбыцця | Прыпынкі, дні курсіравання, шляхі зносін |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6883 | 6:28 | 7:45 | Штодз. з прыпынкамі па станцыях і прып.пункце Маладзёжны | 6884 | 5:39 | 7:14 | Штодз. |
| 7335 | 7:38 | 9:08 | Штодз. Мінск-ГудагайМінск-Маладз. з прып. Мінск-Паўн, Ждановічы, далей Маладз.-Гудагай б/пр: Гауці, Скрэсц., Каменка | 7336 | 8:00 | 9:17 | Штодз. Гудагай-Мінск Гудагай-Маладзечна з прып. па станцыях і пр.пункце Маладзёжны, далей Маладзечна-Мінск з прып. Ждановічы, Мінск-паўн. |
| 6885 | 8:50 | 10:28 | Штодз. | 6886 | 9:36 | 10:52 | Штодз. з прып. па станцыях і пр.п Маладзёжны |
| 6887 | 11:40 | 12:35 | У рабоч. да Смаргоні | 6888 | 10:43 | 12:17 | Штодз. |
| 6971 | 13:29 | 15:07 | У выхадныя | 6890 | 13:49 | 14:41 | У рабочыя са Смаргоні |
| 6889 | 15:58 | 17:38 | Штодз. да Гудагая | 6972 | 15:25 | 17:07 | У выхадныя |
| 6891 | 17:56 | 19:33 | Штодз. | 6892 | 17:58 | 19:34 | Штодз. |
| 7337 | 19:21 | 20:52 | Штодз. з Мінска. Мінск-Маладз. з прып. Мінск-Паўн., Жданов., далей Маладз. Гудагай з прып. па станциях і пр.п Маладзёжны | 7338 | 19:48 (з 24 | 21:12 верасня) | Штодз. Гудагай-Мінск Гудагай–Маладз. з прып. па станцыях і пр.п Маладзёжны, Маладзечна-Мінск з прып. Ждановічы, Мінск-паўн. |
| 6893 | 20:43 | 22:21 | Штодз. | 6894 | 21:23 | 23:01 | Штодз. |

### Маладзечна-Ліда / Ліда-Маладзечна

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 6264 | 4:08 | 7:08 | Штодз. |
| 6263 | 8:38 | 11:37 | Штодз. | | | | |
| 6977 | 12:51 | 15:51 | У выхадныя | 6266 | 9:07 | 12:12 | Штодз. |
| | | | | 6978 | 12:19 | 15:19 | У выхадныя |
| 6265 | 17:52 | 20:51 | Штодз. | 6268 | 16:14 | 19:14 | Штодз. |
| 6267 | 20:32 | 23:37 | Штодз. | | | | |

### Маладзечна-Крулеўшчына-Полацк / Крулеўшчына-Маладзечна

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6682 | 7:26 | 9:17 | У выхадныя да Параф'янава | 6621 | 4:53 | 7:05 | Штодз. адпраўл. з Глыбокага ў 04:10 |
| 6626 | 8:54 | 11:05 | Штодз. | 6681 | 9:58 | 11:49 | У выхадныя з Параф'янава |
| | | 13:05 | Прыбыццё ў Полацк | 6683 | 15:17 | 17:38 | У выхадныя |
| 6684 | 12:50 | 15:03 | У вых. да Крулеўшчыны | 6675 | 17:03 | 17:38 | У рабочыя з Вілейкі |
| 6676 | 16:14 | 16:49 | У рабоч. да Вілейкі | 6625 | 17:34 | 19:45 | Штодз. |
| 6630 | 20:13 | 22:23 | Штодз. | | | 15:37 | Адпраўленнем з Полацка |
| 22:30 Адпр. з Крулеўшч. Пятніца, нядзеля | | 23:00 | Прыбыццё ў Глыбокае | | | | |

## Перайшлі на зімовы расклад руху цягнікоў

**МАЛАДЗЕЧНА. Пастаянны зімовы рух цягнікоў па станцыі Маладзечна дзейнічае ад 27 кастрычніка.**

Пра часовыя змяненні пытайцеся па тэлефонах: **8(0176) 74-24-23, 105.**

**Аляксандр САВАЧКІН, начальнік маладзечанскага чыгуначнага вакзала.**

## Курсы валют НБ РБ

| Курсы валют НБ РБ | 5.11 | 14.11 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| **Долар ЗША** | 9 230,00 | **9 270,00** |
| **Еўра** | 12 460,00 | **12 460,00** |
| **Злоты** | 2 976,46 | **2 962,04** |
| **Літ** | 3 604,27 | **3 606,86** |
| **Расійскі рубель** | 285,50 | **282,50** |
| **Грыўня** | 1 125,27 | **1 129,52** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| **Долар ЗША** | 9220/9290 | **9270/9330** |
| **Еўра** | 12430/12580 | **12450/12550** |

## Цэны на рынку (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 5.11 | 13.11 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 117650 | **106000** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 45050 | **44000** |
| **Ялавічына**, (выразка), 1 кг | 80000 | **70000** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 24500 | **22300** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 23500 | **23800** |
| **Селядзец**, 1 кг | 32500 | **32500** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 85000 | **90000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 10500 | **11500** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 8000 | **8500** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 12500 | **12500** |
| **Алей** | 15000 | **15300** |
| **Маянэз**, 200 г | 5000 | **5000** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7000 | **7300** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 28000 | **30000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 8800 | **9700** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 5000 | **5500** |
| **Капуста**, 1 кг | 2300 | **2300** |
| **Морква**, 1 кг | 4000 | **5000** |
| **Буракі**, 1 кг | 4500 | **5000** |
| **Лімоны**, 1 кг | 17500 | **19000** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 16500 | **18500** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 18000 | **18000** |
| **Памідоры**, 1 кг | 15500 | **8000** |
| **Агуркі**, 1 кг | 28500 | **28500** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 10500 | **12000** |
| **Грушы**, 1 кг | 15000 | **12000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 12000 | **13000** |
| **Масла**, 1 кг | 70000 | **70000** |
| **Тварог**, 1 кг | 40000 | **40000** |
| **Бульба**, 1 кг | – | **4000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | – | **18000** |
| **Мёд**, 0,5 л | 50000 | **50000** |

# *Уладзімір Дубоўскі:* "Людзі заслугоўваюць павагі"

## Былы вілейскі пракурор цяпер працуе ў Маладзечне




Пракурор Уладзімір Дубоўскі.

**МАЛАДЗЕЧНА. Ужо месяц у Маладзечне і раёне новы пракурор – Уладзімір Дубоўскі. Адкуль ён прыйшоў? Як глядзіць на людзей праз прызму 18 гадоў пракурорскай працы? Аб чым ён марыў?**

Пра гэта і не толькі ў размове з "РГ" распавёў Уладзімір Дубоўскі.

**– Ці змянілася што за час вашай працы пракурорам Вілейскага раёна?**

– Пачну з таго, што засталося тым самым. Калі прыехаў у Вілейку, то першае, на што звярнуў увагу, – людзі і іх менталітэт... 

– Пачну з таго, што засталося тым самым. Калі прыехаў у Вілейку, то першае, на што звярнуў увагу, – людзі і іх ментальнасць. Яна адрозніваецца ад жыхароў іншых гарадоў, у якіх давялося працаваць. Калі ёсць сапраўдныя беларусы, то яны недзе ў гэтым рэгіёне. Тутэйшыя жыхары не пойдуць у пракуратуру ці суд з нейкай дробяззю. Людзі сапраўды памяркоўныя. Яны ідуць толькі тады, калі ёсць праблема. За сем гадоў я ўпэўніўся, што ў гэтым краі цудоўныя жыхары, і яны не змяніліся.

А калі гаварыць пра тое, што змянілася, то сам горад Вілейка і раён. З'явіліся новыя прыгожыя дамы, вуліцы сталі больш чыстымі. Але жыццё ідзе, і лёс закінуў мяне ў Маладзечанскі раён. Я ўжо быў тут раней і пра горад склалася пэўнае ўражанне. Гэта сапраўды горад сонца. І ён мне падабаецца.

Вядома, немалаважным фактарам быў калектыў, у які я прыйшоў. Гэта адзін з лепшых калектываў у абласной пракуратуры. Добра, што тут ёсць людзі з досведам, якія дапамагаюць маладым супрацоўнікам.

**– З чаго вы пачалі працу ў Маладзечанскім раёне?**

– Мяркую, што тут няма асаблівасцей, бо пачаў рабіць тое, што і рабіў бы любы чалавек на новай рабоце, якая б яна ні была: знаёмства з людзьмі, з калектывам. Гэта аснова, вакол якой будуецца праца.

**– Ці ёсць тое, што хочаце змяніць?**

– Час пакажа. Нейкіх радыкальных крокаў рабіць не буду, бо, па-першае, каб іх рабіць, трэба ва ўсім дэталёва разбірацца. А па-другое, я не бачу таго, што варта было б радыкальна мяняць, ды ад самага пачатку працы. Грунтоўны фундамент закладзены маім папярэднікам Робертам Зубайравым. Таму пакуль што задача – захаваць і прымножыць тое, што ёсць.

**– Чаму вы некалі абралі пракурорскі шлях?**

– Жаданне дапамагаць людзям. Калі скончыў школу, то вырашыў стаць інжынерам. Нас такіх было шасцёра, і ўсе мы паехалі паступаць у Мінск. Паступілі. Потым пайшоў у армію, зразумеўшы, што інжынерыя – не для мяне. Пасля вырашыў, што хачу служыць закону. Работа не простая, яна патрабуе пэўных чалавечых якасцяў. У першую чаргу, спачуванне людзям і разуменне іх праблем. Часам пракуратуру называюць карным органам, але я з гэтым не пагаджуся. Па Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь наша асноўная задача – абарона законных правоў і інтарэсаў грамадзян. Таму людзі да нас ідуць па дапамогу.

**– Чаму для атрымання адукацыі вы абралі Украіну?**

– Я паступаў у навучальную ўстанову ў 1991 годзе. Тады яшчэ існаваў СССР і былі спецыялізаваныя савецкія саюзныя ВНУ па накіраванні пракуратуры тагачаснай БССР. Я паехаў у Харкаўскі юрыдычны інстытут імя Дзяржынскага. Там на следча-пракурорскім факультэце, дзе навучалі пракурораў і следчых для ўсяго Саюза, былі і дзве так званыя беларускія групы, недзе чалавек 40. А ў сувязі з тым, што СССР распаўся, мне давялося скончыць ужо перайменаваную Нацыянальную ўкраінскую акадэмію імя Яраслава Мудрага. Таму гэта быў не выбар краіны, а выбар вывучэння пракурорскай справы.

**– А кім вы хацелі быць у дзяцінстве?**

– Я лічу, што для любога чалавека, тым больш для хлопчыка, прыклад бацькі вызначальны. Ён у мяне быў навуковы супрацоўнік і займаўся земляробствам. З дзяцінства за ім назіраў, і мне здавалася, што па яго слядах і пайду. Атрымалася інакш, але я аб гэтым не шкадую.

**– Права на што вы лічыце самым важным для чалавека?**

– Права на жыццё, яно недатыкальнае.

**– З якімі справамі даводзілася працаваць?**

– Улічваючы, што быў кіраўніком пракуратуры раёна, то праз мае рукі праходзіла ўся работа: гэта і крымінальныя справы, і назіранне за рашэннямі суда, і звароты грамадзян. Работа пракурора ў тым, каб ведаць і разумець усе накірункі працы пракуратуры і правільна арганізаваць.

**– Ці ёсць нейкая справа, якая найбольш запомнілася за час вашай працы?**

– Ёсць справы, якія праз некаторы час пачынаюць выклікаць усмешку. Ёсць справы, якія проста надоўга застаюцца ў памяці, таму што як бы там ні было, даводзіцца самому перажываць нейкія моманты, хочаш ці не хочаш. Каб працаваць добрасумленна, трэба шмат што праз сябе прапускаць. Вядома, прасцей узгадваць моманты, ад якіх на твары з'яўляецца ўсмешка. Некалі выязджалі на выклік, казалі, што чалавек загінуў, а калі прыязджалі, ён раптам ажываў.

**– Як вы вызначыце ўзровень базавых прававых ведаў жыхароў нашага рэгіёна?**

– Узровень сярэдні, можа, нават крыху ніжэй за сярэдні. Адназначна павінен быць вышэйшы. Узровень ведаў часам вызначае справы і ўчынкі чалавека. Калі чалавек дасканала ведае свае правы, ён адчувае сябе нашмат вальней. На жаль, многім ведання бракуе. Часам непаўнагадовыя забываюць пра тое, што ў іх ёсць правы і абавязкі, забываюць і іх бацькі. Веданне сваіх правоў – аснова прававой дзяржавы. Тады і людзей прасцей абараняць.

**– Якой вы бачыце Вілейшчыну пасля сямі гадоў працы пракурорам?**

– Вілейскі раён ніколі не быў праблемным. Але і нельга сказаць, што ён быў спакойным. Маладзечанскі раён таксама можа і не больш праблемны, проста вялікі. Насельніцтва ў тры разы больш, чым на Вілейшчыне.

**– Ці не змяніліся адносіны да людзей, ведаючы, якімі яны часам могуць быць?**

– Маё цвёрдае перакананне, што людзей трэба любіць. Некаторыя рэчы нельга апраўдаць, але можна па-чалавечы зразумець. Калі гэта разуменне ёсць, то на чалавека пачынаеш глядзець іншымі вачыма. Людзі заслугоўваюць павагі і з павагай трэба ставіцца да кожнага. Не важна, хто ён сёння. Безліч прыкладаў, калі людзі, аступіўшыся, раскайваюцца, ствараюць сем'і, добра жывуць і добра дзяцей выхоўваюць. Калі ў чалавеку спачатку бачыць негатыў і ставіць на ім кляймо, то так далёка не з'едзеш. У людзях трэба шукаць добрае. Нават у тых, хто парушыў закон і здзейсніў злачынства. Тады ёсць шанец зразумець іх і дапамагчы. Яны жывуць побач з намі і ходзяць па адных і тых жа вуліцах з нашымі дзецьмі. Таму і задача наша, у першую чаргу, такім людзям дапамагчы.

**Даведка "РГ". Уладзімір Дубоўскі.** Нарадзіўся 25 сакавіка 1970 года ў вёсцы Горкі Чэрвеньскага раёна Мінскай вобласці. У 1996 годзе скончыў Нацыянальную юрыдычную акадэмію Украіны імя Яраслава Мудрага па спецыяльнасці правазнаўства. Працуе ў органах пракуратуры ад 1996 года. Спачатку памочнікам пракурора горада Жодзіна, потым старшым памочнікам пракурора горада Жодзіна, намеснікам пракурора Смалявіцкага раёна. Пасля пракурорам Вілейскага раёна. Цяпер займае пасаду пракурора Маладзечанскага раёна.

**Настасся РОЎДА.**



КРЫМІНАЛ

## Знайшлі скрадзены мікрааўтобус

**ВІЛЕЙКА. МАЛАДЗЕЧНА. Падазраваных па справе затрымалі ў панядзелак, 4 лістапада.**

Мікрааўтобус "Фольксваген-Каравела" знік з ахоўнай стаянкі па вуліцы Чапаева, што каля завода "Зеніт", у ноч на 17 ліпеня. Тады затрымаць падазраваных не ўдалося.

Затрыманне прайшло ў панядзелак. Імі аказаліся двое маладых людзей, жыхары Маладзечна. Таксама знайшлі і мікрааўтобус.

– Цяпер маладзёны знаходзяцца ў ізалятары для правядзення следчых дзеянняў, – кажа намеснік начальніка РАУС, начальнік міліцыі грамадскай бяспекі **Андрэй Дударчык**. – Мікрааўтобус пад арыштам. Праводзяцца следчыя дзеянні па доказе віны.

**Настасся РОЎДА.**

СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ

## Шукаюць відавочцаў ДТЗ

**МАЛАДЗЕЧНА. Аварыя адбылася 25 кастрычніка каля 23.30 на 66 кіламетры трасы Мінск-Маладзечна-Нарач.**

Невядомы непадалёк ад павароту да вёскі Загорскае Маладзечанскага раёна збіў жанчыну. Яна загінула на месцы.

У цяперашні час ёсць падставы падазраваць, што наехаў грузавы аўтамабіль "Мерседэс-Бэнц", кабіна белага колеру з сінім тэнтам. Машына, па папярэдніх дадзеных, рухалася ў бок Мінска.

Просім відавочцаў патэлефанаваць па нумарах: 8033-6693248 альбо 80176-771089 ад 09.00 да18.00 (панядзелак-пятніца) следчаму **Максіму Дзмітрыевічу Буткевічу**.

**Па інфармацыі Маладзечанскага раённага аддзела Следчага камітэта.**

ТРАНСПАРТНАЯ МІЛІЦЫЯ

## Смерць на чыгунцы

**МАЛАДЗЕЧНА. Здарэнне адбылося 5 лістапада каля 23 гадзін ночы.**

Грузавы поезд Маладзечна-Мінск ехаў каля прыпынку "Крыніца" і смяротна траўмаваў мужчыну.

Пра гэта паведаміла старшы інспектар групы аховы правапарадку і прафілактыкі Маладзечанскага аддзела ўнутраных спраў на транспарце **Таццяна Субач**.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

ВЫШУК

## Шукаюць мінчанку

**МАЛАДЗЕЧНА. 16-гадовая дзяўчына можа знаходзіцца ў Маладзечне і наведваць месцы збору моладзі (дыскатэкі, бары). Лёгка ўваходзіць у кантакт з новымі людзьмі.**



19 кастрычніка Кацярына пайшла з дому і не вярнулася.

**Прыкметы:** на выгляд 17-18 гадоў, рост каля 160 см, моцнага целаскладу, твар круглы, смуглявы, еўрапейскага тыпу, вочы блакітныя, нос сярэдні ўвагнуты, вушы авальныя сярэднія, валасы прамыя, ніжэй плячэй, пафарбаваныя ў чорны колер.

**Асаблівыя прыкметы:** радзімка на левай шчацэ і над губой з правага боку.

**Была апранутая:** бавонневая куртка чорнага колеру з поясам і футравым каўнярам, штаны чорнага колеру, боты чорнага колеру.

Пры сабе мела жаночую сумку чорнага колеру.

Просім асоб, якія валодаюць інфармацыяй аб месцазнаходжанні дзяўчыны, паведаміць у міліцыю па тэлефонах: **8017-2520202, 8017-2130832, 8029-3560280, 8029-3924647, 8044-7313760 альбо 102.**

Канфідэнцыйнасць і ўзнагароджанне гарантуюцца.

**Паводле інфармацыі Фрунзенскага РУУС горада Мінска.**

СУПОЛКІ

# Аддзелу Саюза палякаў – 20 гадоў

**МАЛАДЗЕЧНА. Саюз палякаў на Беларусі – самае шматлікае нацыянальна-культурнае грамадскае аб'яднанне Мінскай вобласці.**


Фота з архіва Тамары АБРАМОВІЧ.

Удзельнікі маладзечанскага аддзела Саюза палякаў. Злева направа: Мікалай Кот, Галіна Рогач, Данута Табачнікава, Вацлаў Шутовіч, Галіна Гембіцкая, Яніна Русовіч, Аляксандра Жыгуловіч , Тамара Абрамовіч.

Для многіх яго ўдзельнікаў Польшча – гэта край, дзе жылі іх продкі, дзе іх карані, іх сэрца.

Маладзечанскі гарадскі аддзел грамадскага аб'яднання "Саюз палякаў" існуе ўжо 20 год. Ён носіць імя асветніцкага дзеяча Тамаша Зана, які нарадзіўся 21 снежня 1796 года ў вёсцы Мясата Ашмянскага павета (цяпер Маладзечанскі раён). Ён напісаў элегіі, балады, сатырычныя творы, найбольш знакамітая паэма "Смерць табакеркі". Сябраваў з Адамам Міцкевічам і Янам Чачотам.

## Як стварыўся аддзел

Гісторыя дзейнасці аддзела багатая цікавымі і добрымі справамі ў сферы культуры, адукацыі, інфармацыі, захоўвання важных для Беларусі і Польшчы падзей і асоб.

Першым старшынёй аддзела Саюза палякаў на Беларусі быў **Чэслаў Іадкоўскі**.

–Спачатку было цяжка, – прыгадвае ён. – У людзей быў недавер да таго, што гэта за саюз, але паціху справа наладзілася, і 14 лістапада 1993 года мы заснавалі аддзел Саюза палякаў на Беларусі.

Пазней аддзел узначальвалі **Ірына Бажко, Галіна Юрпалава, Ірына Канікайнен, Антаніна Святоха**.

Кожны з іх вёў актыўную і творчую дзейнасць у накірунку захавання і развіцця польскай культуры, польскай мовы.

Першым арганізаваў факультатыў польскай мовы на базе гімназіі №6 **Станіслаў Бурак** з падтрымкай **Ірыны Бажко**, а потым яны з'явіліся ў іншых гімназіях. Сёння такі факультатыў ёсць у гімназіі №10. Ім кіруе **Галіна Юрпалава**. Сярод ахвотных вывучыць польскую мову не толькі дзеці, але і дарослыя.

## Аўтар касцёла ў цэнтры горада – сярод сяброў Саюза

Аснова аддзела – сталыя людзі. Яны прыходзяць на сходы, каб адзначыць пэўнае свята, напрыклад, Дзень Канстытуцыі Рэчы Паспалітай 3 мая. Збіраюцца і на рэлігійныя святы, каб падзяліцца велікодным яйкам ці аплаткай на Божае Нараджэнне, пачытаць вершы і паспяваць песні.

Але ёсць і тыя, якія вядуць грамадскую дзейнасць, нягледзячы на ўзрост.

Напрыклад, **Тадэвуш Акуневіч**. У аддзеле ён ад дня яго заснавання. Нарадзіўся ў вёсцы Хоўхлава ў 1927 годзе. Атрымаўшы спецыяльнасць інжынера-будаўніка, прыехаў у Маладзечна.

Калі выйшаў на пенсію, спраектаваў і ўзначаліў будаўніцтва касцёла святога Юзафа каля Цэнтральнай плошчы. Будоўля доўжылася чатыры гады. Пра гэтыя падзеі ён распавёў у брашуры, якая хутка выйдзе ў свет.

## Творчыя і працавітыя

Нямала ў аддзеле і моладзі. Неаднаразова запрашалі да ўдзелу на разнастайныя фестывалі і конкурсы **Юлію Абрамовіч**. У 2008 годзе яна стала лаўрэатам сёмага рэспубліканскага фестывалю нацыянальных культур у Гродне.

Да 625-годдзя горада сябры аддзела Саюза палякаў на Беларусі арганізавалі польскае падвор'е, на якім прадставілі выставу мастацкай творчасці **Маіны Талпыгі** і **Зоі Русель**.

Крыж, зроблены з бісеру Маінай, вельмі спадабаўся жыхарам і гасцям горада, а вышываныя карціны Зоі вельмі ўсхвалявалі прыхільнікаў гэтай галіны мастацтва.

На кірмашы прадэманстравалі багатую польскую кухню. **Леанарда Крукоўская** і **Маргарыта Апанасовіч** прыгатавалі мноства смачных ласункаў, якімі з задавальненнем частавалі гасцей.

У канцэртнай праграме прынялі ўдзел нашы маладыя спявачкі – **Анастасія Януць, Карына Арловіч, Юля Абрамовіч**.

## Дзякуем актывістам

Прадстаўнікі нашага аддзела заўсёды прымаюць удзел у шматлікіх мерапрыемствах, звязаных з дзейнасцю грамадскага аб'яднання "Саюз палякаў на Беларусі", не толькі ў межах вобласці, але і краіны. Гэта абласныя і рэспубліканскія фестывалі польскай культуры, канферэнцыі, з'езды.

Варта адзначыць актывістаў аддзела: **Дануту Табачнікаву, Яніну Русовіч, Галіну Юрпалаву, Вацлава Шутовіча** і **Тадэвуша Акуневіча, Галіну Рогач** і **Аляксандру Жыгуловіч**. Яны заўсёды падтрымліваюць усе пачынанні аддзела, шчыра дапамагаюць у працы.

## Запрашаем на свята

23 лістапада адбудзецца святочнае віншаванне аддзела Саюза палякаў на Беларусі – спаўняецца 20 год ад дня заснавання. Запрашаем усіх ахвотных у канферэнц-залу бібліятэкі імя Максіма Багдановіча а 15 гадзіне на святочны канцэрт. Уваход вольны.

**Тамара АБРАМОВІЧ, школа журналістыкі пры "РГ".**

# алми
СЕТЬ МАГАЗИНОВ

**УНИВЕРСАМ ул. В. Гостинец, 136**
**ГАСТРОНОМ ул. Ф. Скорины, 28**

www.almi.su

| Цена | Скидка | Товар |
|---|---|---|
| 29900 (только в универсаме; алми собственное производство) | 25% | П/ф Котлета По-деревенски 1кг РБ. Состав: свинина, яйцо, картофель свежий, лук, мука, перец черный молотый, соль. |
| 35900 (только в универсаме; алми собственное производство) | 25% | Оладьи из курицы 1кг РБ. Состав: цыплята, яйцо, капуста белокачанная, лук, мука, перец черный молотый, приправа универсальная, масло растительное, соль. |
| 44900 (только в универсаме; алми собственное производство) | 25% | Салат Греческий 1кг РБ. Состав: перец свежий, томаты свежие, огурцы свежие, сыр фету, маслины, лук, масло растительное, зелень. |
| 3950 (только в универсаме; алми собственное производство) | 25% | Хлеб Кирилловский 600г РБ. Состав: мука 1 сорта, мука ржаная, сахар, соль, масло растительное, дрожжи, закваска, отруби, вода питьевая. |
| 2200 | 15% | Продукт йогуртный Альпенгурт жир.0.1% 100г РФ В ассортименте |
| 5950 | 15% | Продукт йогуртный Савушкин продукт жир.2% 415г РБ Ананас-дыня/Клубника/Лесные ягоды |
| 6900 | 25% | Тесто слоеное Живи Здорово 450г РБ |
| 56900 | 25% | Грудинка к/в Фирменная 1кг РБ |
| 49900 | 30% | Колбаса в/к салями сервелат Борисовский в/с 1кг РБ |
| 42900 | 15% | Сосиски мясные Троицкие Новые в/с 1кг РБ |
| 26500 | 25% | Филе Пангасиуса 1кг РФ |
| 54900 (только в универсаме) | 25% | Креветки в панцире Вичи Люкс 1кг РФ |
| 2100 | 20% | Палочки крабовые Эконом Маркет 100г РФ |
| 36900 | 25% | Лещ х/к 1кг РБ |
| 8500 | 25% | Сардина Атлантическая с добавлением масла 240г РФ |
| 13900 | 15% | Мука пшеничная Столичная мельница в/с 2кг РБ |
| 5100 (только в универсаме) | 20% | Крупа Пан Крупка РБ Кукурузная 700г/Манная 800г |
| 7500 | 15% | Макаронные изделия Петровские нивы 900г РФ Перья/Рожки/Спагетти/Спирали |
| 10900 (только в универсаме) | 25% | Шампиньоны резаные Лютес 425мл Голландия |
| 15500 | 25% | Корнишоны маринованные Лорадо 680г Индия |
| 16100 | 20% | Пюре детское Гербер По-Домашнему 200г РФ Индейка с фенхелем/Говядина с морковью |
| 3200 (только в универсаме) | 20% | Сок/Нектар Фруто Няня Малышам 0.2л РФ Яблоко/Яблоко-вишня/Яблоко-черная смородина |
| 8900 | 15% | Сок Вис 1л Молдова Яблочный прямого отжима/Яблочно-вишневый |
| 4200 (алми сделано для вас!) | 25% | Вода минеральная лечебно-столовая АЛМИ 1.5л РБ |
| 13300 | 20% | Чай черный Липтон 25пак*2г РФ |
| 16950 | 20% | Кофе растворимый Нескафе Классик 75г РФ |
| 30950 | 25% | Паста ореховая с какао Нутелла 350г РФ |
| 14800 (только в универсаме) | 25% | Драже Идеал 200г РБ Трюфельки/Кокоска |
| 4250 | 25% | Вафли Витьба 143г РБ Миндаль/Лимон. Производитель: КУП "ВКК "Витьба" |
| 9100 (только в универсаме) | 25% | Сладости мучные Королевские 300г РБ |
| 11500 (только в универсаме) | 30% | Прокладки ежедневные Либресс Регуляр 50шт Словакия Классик/Софт |
| 7900 | 25% | Туалетная бумага Сипто Колор 4шт РБ Яблоко/Лимон |
| 25900 | 20% | Стиральный порошок Миф Автомат 2кг РФ В ассортименте |
| 10900 (только в универсаме) | 25% | Средство для мытья посуды Миф 1л РФ Алоэ Вера/Лимонная свежесть/Свежесть цитрусов |
| 18900 (только в универсаме) | 30% | Крем-гель для душа Дав 250мл РФ Масло Ши и ваниль/Инжир и лепестки апельсина/Глубокое питание |
| 8700 | 25% | Мыло туалетное Шик 5шт*70г Украина Ромашка/Зеленое яблоко/Алоэ Вера |

ЗАО «Юнифуд» УНП 800016624

**Количество товара ограничено. Товар подлежит обязательной сертификации. Скидки по дисконтным картам на товары, участвующие в акции, не предоставляются. Внешний вид товаров, представленных на фотографиях, может несколько отличаться от товаров, выставленных в торговом зале. При расхождении цен, указанных в листовке и магазине, верными считать цены в магазине.**


товар, отмеченный данным ценником, реализуется в гастрономе: г. Молодечно, ул. Ф. Скорины и в универсаме: г. Молодечно, ул. В. Гостинец, 136


товар, отмеченный данным ценником, реализуется только в универсаме: г. Молодечно, ул. В. Гостинец, 136

**ЦЕНЫ ДЕЙСТВИТЕЛЬНЫ С 13 ПО 26 НОЯБРЯ 2013 ГОДА**

## КУПЛЮ

• 2-пакаёвую кватэру ў Вілейцы. Т. МТС (8-029) 2573241.

• Участак ці дом пад знос у прыгарадзе ці горадзе Маладзечна для будоўлі дома. Т. (8-029) 6262756, (8-029) 2505060.*

## ЗДАМ



• Гараж у арэнду ў ГК-12. Т. (8-0176) 773810, Вэлком 4755788.

• Пакой. Т. Вэлком (8-029) 1518018.

## НАЙМУ

• Кватэру або дом на доўгі час для жанчыны 40 гадоў. Парадак, беражлівыя адносіны да вашай маёмасці і своечасовую аплату гарантую, тэрмінова. Т. у Вілейцы 56485, (8-033) 6676694. Святлана.

• Кватэру ў Вілейцы для маладой сям'і. Разгледзім любыя прапановы. Т. МТС (8-033) 3352103, (8-029) 1796663.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• **"АЛЯКСАНДРА" –** новыя вясельныя і вячэрнія ўбранні. Маладзечна, ГЦ "Спадарожнік", вул.В.Гасцінец, 67. ІП Ліпніцкая А.Г. УНП 691397956. Т. (8-044) 7567877, (8-029) 9509215.*

• **"МАДЛЕН"** – новае паступленне еўрапейскіх мадэляў. Маладзечна, вул. Вальніца, 12, 2-паверх. ІП Кароль Т. Н. УНП 690494373. Т. (8-029) 3611420.*

• **"МІЛЭДЗІ"** – вясельныя ўбранні. Вялікі выбар. Маладзечна, вул. Віленская, 12 (атэльe "Бярозка"). ІП Казлоўская Т.І. УНП 690154367. Т. (8-0176) 777382, (8-029) 3677382, (8-029) 2727483.*

• **"НАДЗЕЯ" –** вясельныя, дзіцячыя ўбранні. Маладзечна, ГАЦ "Модуль", месца №63. ІП Ліпніцкая Г. С. УНП 600328327. Т. (8-044) 5502031.*

• Вяселлі, юбілеі, банкеты, навагоднія карпаратывы, індывідуальныя сцэнарыі, прафесійны падыход. Т. (8-029) 6188716.*

• **ПРАКАТ БЕЛАГА ЛІМУЗІНА. КАДЗІЛАК.** ІП Аладка А.І. УНП 690337519. Т. (8-029) 3483306.*

• Тамада-баяніст, дыскатэка на вяселле, юбілей, навагодні карпаратыў. Сайт: www.toast-master1.narod2.ru УНП АА 9523648. Т. МТС (8-029) 5510526.*



## ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Гідраманіпулятар МАН з прычэпам 20 тон, борт 7 м. ТАА "МатэкПро". УНП 695501712. Т. (8-029) 3622022, (8-033) 6686871.*

• Івека Дэлі, рэфрыжэратар ад -20 да +20, г/п - 2 тоны, аб'ём 16 куб.м. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Шэмет А.Л. УНП 691515260. Т. Вэлком (8-044) 7282924, МТС (8-029) 5089087.

• Мерседэс, да 1,8 т., 20 м.куб., дастаўка невялікіх грузаў, пасылак у/з Масквы, пастаянна ў/з Мінска. ІП Грыгор'еў В.В. УНП 191095797. Т. (8-029) 6170745, (8-029) 7570745, Уладзімір.*

• Самазвалы МАЗ 5516 – 20 тон, МАЗ 5551 – 10 тон (пясок, гравій, шчэбень, смецце, асфальт, вываз снегу), мэблевы фургон Мерседэс 410 - 2 тоны, 16 куб.м. ТАА "МатэкПро". УНП 695501712. Т. (8-029) 3622022, (8-033) 6686871.*

• Спрынтар максібаза, 4,25 м, суцэльнаметалічны. ІП Рудкевіч І.В. УНП 690688776. Т. МТС (8-029) 8648384.*

• Тэнт, да 5 т. ПТУП "Саліра". УНП 691506727. Т. (8-029) 7787574.*

## ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **АБРАЗАННЕ ДРЭЎ ЛЮБОЙ СКЛАДАНАСЦІ.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 7639480, (8-044) 7639480.*

• Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыі па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (баланс), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Аддзелка дамоў сайдынгам і іншыя віды аддзелачных работ (плітка, ламінат, ПВХ, гіпсакардон, сцяжка, фасады). ІП Шчэрба А.В. УНП 691500609. Т. МТС (8-029) 8620551.*

• **ДАХ, УЦЯПЛЕННЕ, АДДЗЕЛКА** ўнутраная, вонкавая. Вагонка. Сайдынг. Блок-хаўс. ІП Ходаль В.А. УНП 391074376. Т. (8-029) 9920647, (8-029) 8910834.*

• МАЗ, самазвал, 10 т; пясок, жвір, ПГС, раствор, бетон, вываз смецця. ІП Сушко А.А. УНП 690690644. Т. (8-029) 3385358, (8-029) 7588449.*

• **ПП "ЯРЫСДОМ" ВЫРАБІЦЬ САДОВУЮ МЭБЛЮ, НАВЕСЫ, АЛЬТАНКІ І ІНШЫЯ ВЫРАБЫ З ДРЭВА ПАД ЗАКАЗ. Т. МТС (8-029) 7095069.**

• Рамонт і падключэнне пральных машын LG, INDESIT, ARISTON, ATLANT, ARDO, CANDY, WHIRLPOOL, ZANUSSI, ELEKTROLUX і інш. ІП Аксёнаў В.Р. УНП 590339676. Т. (8-029) 3039740, (8-033) 3760789.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА. ГАРАНТЫЯ.** ІП Зелянко В.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273.*

• **ТРАТУАРНАЯ ПЛІТКА**, борт тратуарны, накрыўка на слуп, балясіны, дэкаратыўны камень. У асартыменце. ІП Юрэвіч В.В. УНП 691505215. Т. (8-044) 7168663, (8-029) 8761382.*



• Устаноўка, зборка, рамонт корпуснай мэблі ў офісах і кватэрах. Даступныя цэны. ПУП "БенаРыка". УНП 691503914. Т. (8-033) 3908204, (8-029) 3876197.*

• Франтальны пагрузчык ТО-18, коўш 2 куб.м (планіроўка, капанне катлаванаў, пагрузка смецця, разгрузка блокаў, цэглы, абсталявання, уборка снегу). Міні-экскаватар УСВ (глыбіня да 2,7 м). ТАА "МатэкПро". УНП 695501712. Т. (8-029) 3622022, (8-033) 6686871.*

• Фундамент, кладка, дах, зруб. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-029) 5024571.*

• Шафы-купэ, прыхожыя, спальні, дзіцячыя пакоі. ІП Купрэйчык А. П. УНП 690685907. Т. (8-029) 5085160, (8-044) 7899734.*

• **ШОУ** клоўна – дзіцячыя святы, дні нараджэння, віншаванні і іншае. Спяшайцеся зрабіць падарунак - парадыйнае шоу роставых лялек для дарослых на вяселлі, юбілеі, навагоднія карпаратывы. ІП Кананович І.Е. УНП 691501156. Т. (8-029) 8596692.*

• **ЭЛЕКТРАМАНТАЖНЫЯ РАБОТЫ ВЫСОКАЙ ЯКАСЦІ ПА ЗАМАНЛІВАЙ ЦАНЕ.** ІП Гавінека А.С. УНП 591585295. **Т. (8-029) 7728406.***

• **ЭЛЕКТРАМАНТАЖНЫЯ РАБОТЫ** любой складанасці**.** Праводка кватэр, дамоў, офісаў, прадпрыемстваў. Пракладка і падключэнне інтэрнэту. ІП Шмігельскі С.М. УНП 691293266. Т. (8-029) 8761796.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**БУДМАТЭРЫЯЛЫ, САНТЭХНІКА**

• Ванна акрылавая 150х70 "Апал плюс", новая, чэк ад 02.10.2013 г. прыкладаецца, 1795600 руб., тэрмінова; футра пясочнага колеру з лісічкі, трохі б/у, памер 48-54, падоўжаная. Т. (8-044) 7244325.

• Ракавіна, ванна блакітная 170 см, батарэі чыгунныя (новыя). Т. МТС (8-033) 3086067.

• Сетка рабіца ацынкаваная (1,2 мх10 м, 2 мм, 12 рулонаў, 190000 руб./рул.). Т. (8-029) 3271119.*

• Шыфер, дастаўка. ПП "Металіндустрыябуд". УНП 190310335. Т. (8-029) 6693188, (8-017) 5425353.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Бетонамяшалка, воданагравальнікі, помпы 14 куб.м/гадз., бензакосы, бензапілы, кампрэсары, бензагенератары, інвертары, катлы, трубы, шлангі, тачкі, камень. ІП Глінскі М.М. УНП 190337652. Сайт 940.BY. Т. (8-029) 2599940.*

• Плуг двухкорпусны, помпа паліўная Т-25, мост задні да ГАЗ-24. Т. (8-033) 3865672.

• Прычэп да матаблока. Т. (8-029) 6017936.

• Прычэп. Т. Вэлком (8-044) 7125657, (8-01797) 43420.*



• Трактар МТЗ-50 на запчасткі з навясным абсталяваннем, Валожын. Т. (8-01772) 36755.

**Бытавая тэхніка**

• Халадзільнік "Мінск-15" у добрым стане. Т. (8-029) 7626614.

• Электрапліта "Гефест 2140-02" (50х50), 4 канфоркі, б/у, добры стан + выцяжка, 1500000 руб, Маладзечна. Т. (8-029) 2792911, (8-044) 5346480.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ «ТРЫКАЛОР» – СКІДКІ! АКЦЫЯ! ЛІЧБАВЫЯ ПРЫЁМНІКІ АД 350000 РУБ.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. **Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.***

• **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ**. Абаненцкай платы няма! Растэрміноўка без працэнтаў. ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413. Т. (8-029) 7627898.*

• **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ.** Высокая якасць адлюстравання. Гарантыя. ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413.Т. (8-029) 3326779.*

• **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ.** Кантроль якасці. Т. (8-029) 5702212.*

• **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ**. Трыкалор. Т. (8-029) 9056393 Вэлком.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, HD.** Растэрміноўка без %. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, ЛІЧБАВАЕ ТБ.** Растэрміноўка без % да 12 месяцаў. ГД "Тройка", п. 536. ПГУП "Ліцэраль". УНП 690371107. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320, **www.literal.deal.by***

• М/т "Самсунг Гэлаксі S Плюс", б/у, выдатны стан, экран 4 дзюймы, камера 5 Мп, працэсар 1,4 гГц , андроід, 90 у.а., Маладзечна. Т. (8-033) 3985915.

**МУЗІНСТРУМЕНТЫ**

• Піяніна, Вілейка. Т. МТС (8-033) 6679070.*

• Саксафоны (альт, тэнар) і іншыя духавыя інструменты. Т. (8-029) 5060628.*

**МЭБЛЯ**

• Кухня 3,1 м, дзверы міжпакаёвыя, сушылка для ручнікоў, усё у выдатным стане. Т. (8-029) 5531397.

• Мэбля ў дзіцячы пакой "Клецк 58Д5" + камп'ютарны стол, б/у, добры стан. Т. (8-029) 1389568, 744343.

• Спальны гарнітур, б/у, у добрым стане. Цана дагаворная, нядорага. Т. (8-029) 8639962, (8-01771) 25174.*

• Секцыя рыжскай фабрыкі, добры стан, 1 шт.; шафа для адзення, люстэркі, двухсекцыённая, фірма ГДР, 1 шт., цэны дагаворныя. Т. Вэлком (8-044) 7462417.



**ЖЫВЁЛА, ПТУШКА, ПЧОЛЫ**

• Баран, авечкі. Т. (8-029) 6578681.*

• Бараны маладыя. Т. (8-029) 1707186.*

• Карова дойная, 7 год (чорна-пярэстая). Т. (8-029) 5292672.*

• Карова, добрая, ацёл у лютым, Вілейка. Т. (8-01771) 21306, (8-029) 1720673.*

• Карова, маладая, 3 ацёл у снежні 2013, Вілейскі р-н. Т. МТС (8-033) 6370104, Вэлком (8-029) 1684236.

• Шчанюкі сярэднеазіяцкай аўчаркі з выдатнай радаслоўнай. Т. Вэлком (8-029) 6162642, (8-01771) 52345.

**ІНШАЕ**

• Блок аконны, новы, хвоя, 160х114 - 4 шт., 146х132 - 1 шт., блок дзвярны, новы, хвоя, 206х86, Вілейка. Т. (8-044) 7129848.

• Вароты гаражныя металічныя, 2,0х2,50, б/у, у добрым стане, Маладзечна. Т. (8-029) 5612059.

• Вароты гаражныя. Т. (8-029) 7555899.*

• Вуллі 16-рамачныя, новыя, 3 штукі, 900000 за штуку, Вілейка. Т. (8-044) 7129848.

• Газавы кацёл з водным контурам, нядорага. Т. (8-01592) 21742, (8-025) 9042962, (8-044) 4928595.*

• Ралет на цэнтральным рынку ў Вілейцы. Цэнтральны рад харчовых тавараў. Т. (8-029) 6943977, Андрэй.

## КУПЛЮ

**Будматэрыялы, сантэхніку**

• Батарэі чыгунныя, б/у. Т. (8-029) 8789740.*

**Сельгас-, будаўнічую тэхніку, абсталяванне**

• Мотаблок МТЗ, можна ў нерабочым стане і без рухавіка. Т. (8-029) 9375913.*

**Жывёлу**

• Каня, авечак, буйную рагатую жывёлу і іншыя віды свойскай жывёлы, дорага. ІП Кеўра А.С. УНП 590818581. Т. (8-044) 4846590, (8-029) 3939256.*

## АНТЫКВАРЫЯТ

• **АНТЫКВАРЫЯТ ЛЮБЫ! МАНЕТУ, МЕДАЛЬ, СТАТУЭТКУ. Т. (8-029) 7764214.***

• **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 765542, (8-029) 6564854.*

• **АНТЫКВАРЫЯТ. ДОРАГА!** Карціны, іконы, манеты, рублі СССР, статуэткі СССР, медалі, знакі, ордэны і інш. Т. МТС (8-029) 5586238.*

• **СТАРАЖЫТНЫЯ** карціны, іконы, манеты і іншае. Т. (8-029) 8719950.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Шкуркі пясца, лісы. Т. (8-029) 8552646.*

## ІНШАЕ

• Палац культуры г.Маладзечна прымае заяўкі ад арганізацый і прадпрыемстваў на правядзенне навагодніх агеньчыкаў "У Новы год без клопатаў" 25.12, 28.12, 29.12. Заяўкі прымаюцца да 30.11.2013 г. УНП 690244105. Т. (8-0176) 746242.*

• ТАА "Будрэгіён" прапануе шырокі асартымент навагодніх тавараў: ёлкі, ёлачныя ўпрыгажэнні, навагодняя мішура, сувеніры, цацкі, посуд і іншае. Запрашаем усіх на закупы. Зрабіце свой выбар, парадуйце сябе і сваіх блізкіх. Мы знаходзімся па адрасе: г. Вілейка, вул. Красіна, 27. УНП 690618214.*

• Цікавае забаўка для дзяцей і дарослых, механічныя конікі (поніцыклы) даставяць масу задавальнення вам і вашым дзецям. Таксама гэта добры трэнажор, які ўмацоўвае ўсе мышцы вашага дзіцяці, а для маленькіх, якія яшчэ не навучыліся катацца па поніцыклах, ёсць зоамабілі і мотамабіль. Можна зрабіць добрыя здымкі. Мы знаходзімся: г. Маладзечна, Лядовы палац. Пн-пт: 14.00-18.00, сб: 10.00-19.00, вс: 10.00-18.00. ПП "ВіЛуГен". УНП 691174184.

• Шукаю спадарожнікаў у Хмяльніцкі, Беласток. Т. (8-033) 6344827, (8-029) 9491773.*

• Шукаю спадарожнікаў у Беласток. Т. 6535627, 5743335.

## ПРАЦА

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Водаправод, перанясу ўмывальнік і краны. Т. (8-029) 7555899.*

• Падмурак, кладка, дах, электрыка, сайдынг, пластык і г.д., досвед. Т. (8-029) 7583769.*

• Якаснае аздабленне кватэр, дамоў, столі пад афарбоўку, шпаклёўка, шпалеры і г.д. ІП Скуратовіч С.С. УНП 691507287. Т. (8-029) 2501031.*

### ПАТРАБУЮЦЦА

• Вытворчаму прадпрыемству патрабуюцца зборшчыкі вокнаў ПВХ з вопытам работы. ТДА "Белакно". УНП 690536156. Т. (8-029) 7630032, (8-029) 3069199.*

• ТАА "Русаўтапром" запрашае да супрацоўніцтва прадпрыемствы ў якасці рэгіянальнага прадстаўніка па рэалізацыі аўтамабільнай тэхнікі ў Маладзечне, Салігорску, Слуцку. УНП 690302205. Т. (8-029) 1081982, (8-029) 1468638.

РЫБАЛОЎСТВА

# Нацпарк "Нарачанскі": як рыбачыць восенню

**МЯДЗЕЛ. Каб правільна лавіць рыбу, трэба ведаць пэўныя правілы.**

У адпаведнасці з палажэннем аб Нацыянальным парку "Нарачанскі" ў восеньскі перыяд устаноўлены шэраг абмежаванняў па знаходжанні грамадзян на тэрыторыі нацыянальнага парку.

У новай рэдакцыі палажэння агавораныя і пэўныя абмежаванні па прамысловым і аматарскім рыбалоўстве. Так, прамысловае рыбалоўства дазволена толькі на азёрах Мястра, Баторына, Мядзел, Вялікія Швакшты, Свір, Вішнеўскае. На возеры Мядзел прамысловае рыбалоўства абмежаванае ў перыяд ад 15 лістапада да ўвядзення вясновай забароны на лоўлю рыбы ў сувязі з нерастам рапушкі.

На рацэ Страча, у межах Нацыянальнага парку "Нарачанскі", у перыяд нерасту стронгі ручаёвай ад 15 лістапада да ўвядзення вясновай забароны на лоўлю рыбы (як правіла, да 1 красавіка) забароненае любое аматарскае рыбалоўства, у тым ліку з выкарыстаннем вудаў і спінінгаў любых сістэм.

На азёрах Воўчына і Рудакова ў перыяд з 15 лістапада да 15 снежня забароненае падводнае паляванне і выкарыстанне любых водных транспартных сродкаў. Нагадваем, што на тэрыторыі Нацпарку рэгламентуецца выкарыстанне грамадзянамі і юрыдычнымі асобамі водных транспартных сродкаў (лодак, катараў) з падвяснымі рухавікамі ўнутранага згарання. Так, усім юрыдычным і фізічным асобам дазваляецца выкарыстоўваць водныя транспартныя сродкі з рухавікамі да 15 конскіх сіл.

Аднак выкарыстоўваць водныя транспартныя сродкі на вадаёмах нацыянальнага парку можна толькі для перамяшчэння. Тролінг, або лоўля рыбы на дарожку з суднаў з рухавікамі, на тэрыторыі Нацыянальнага парку "Нарачанскі" забаронены.

На тэрыторыі прыродаахоўнай установы забароненае размяшчэнне турыстычных стаянак і развядзенне вогнішчаў за выключэннем спецыяльна ўстаноўленых месцаў.

За парушэнні дадзеных абмежаванняў заканадаўствам устаноўленае адміністрацыйная адказнасць у выглядзе штрафу ў памеры ад 4 да 35 базавых велічынь на грамадзян і на юрыдычных асоб да 500 базавых велічынь.

Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць у адміністрацыі нацыянальнага парку "Нарачанскі", у лясніцтвах, а таксама ў Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету па тэлефоне **8(01797)5-07-40**.

**Валеры КЛЯНОЎСКІ, начальнік Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**

ЗДАРЭННІ

# Двое кіроўцаў, паўторна затрыманых нецвярозымі, могуць застацца без сваіх аўто

**ВІЛЕЙКА. Дзве крымінальныя справы ўзбудзілі ў Вілейцы на мінулым тыдні.**

– Машыны ўжо апісаныя, – кажа намеснік начальніка РАУС, начальнік міліцыі грамадскай бяспекі **Андрэй Дударчык**. – Гіпатэтычна гаспадары аўто трапляюць пад новы закон аб канфіскацыі аўтамабіля пры паўторным затрыманні кіроўцы нецвярозым за рулём. Аднак калі разглядаць правы бок справы, бо першы раз іх затрымлівалі да ўступлення ў сілу новага закона, то хутчэй за ўсё машыны ім яшчэ пакінуць. Аднак гэта ўжо будзе вырашаць суд.

**Настасся РОЎДА.**

# У Віцебску загарэўся аўтобус маладзечанскага драмтэатра

**МАЛАДЗЕЧНА. Аўтобус загарэўся ноччу з 5 на 6 лістапада ў Віцебску. Туды Мінскі абласны драматычны тэатр паехаў на гастролі.**

Чаму загарэўся аўтобус, пакуль невядома. Згарэлі некалькі крэслаў, закураны салон.

– Мы праводзілі акцёраў на гастролі ў панядзелак, 4 лістапада, у 8 раніцы, – кажа мастацкі кіраўнік тэатра **Мікалай Дзінаў**. – Туды паехала трупа з 17 чалавек. Яны павезлі з сабой тры спектаклі: "Старая зайчыха", "Месье з рагамі і мадам з вусамі" і "Каханне па-італьянску".

**Настасся РОЎДА.**

■ СТАРЫ АЛЬБОМ

# Жыццёвы шлях майго дзеда – Васіля Казлоўскага

**МАЛАДЗЕЧНА. Стары фотаальбом – цудоўная рэч. Можна зазірнуць у твары продкаў, якія перажылі шматлікія нягоды і выпрабаванні. Прасачыць, як адбіўся іх лёс на абліччы, міміцы.**

Мой расповед пра майго дзеда па мацярынскай лініі Васіля Казлоўскага з Мароськаў Маладзечанскага раёна, чалавека вельмі складанага характару і лёсу. Ён нарадзіўся ў разгар Першай сусветнай, перажыў лютаўскую і Кастрычніцкую рэвалюцыі, грамадзянскую вайну, падзел Беларусі паміж Польшчай і РСФСР, прымусовую калектывізацыю, рэпрэсіі бацькоў і высылку на Далёкі Усход, удзел у крывавых баях Другой сусветнай супраць фашысцкай Японіі ў шэрагах савецкага войска, дэмабілізацыю ў 1946-м і немагчымасць вярнуцца да бацькоўскай хаты, цяжкае пасляваеннае жыццё ў разбуранай вайной Беларусі і пасляваеннае адраджэнне СССР, якое шчыра лічыў сваёй Радзімай, і яго развал у 1991-м, незалежнасць Беларусі… Дух захоплівае, ці не так?

## З біяграфіі

Васіль Андрэевіч Казлоўскі нарадзіўся 15 ліпеня 1917 года ў вёсцы Забарэчча Забарскага (зараз Халопеніцкага) сельсавета Холненскага раёна (цяпер Крупскі ) у сям'і Андрэя Аляксеевіча і Таццяны Арцёмаўны (1883 г.н.).

Сям'я была вялікая, жылося цяжка, хоць, бацька, будучы ляснічым, меў пэўны прыбытак да жалавання, але, маючы сем з паловай гектараў уласнай зямлі (нават пры савецкай уладзе), трымаў у гаспадарцы ўсяго аднаго каня. Таму ўвесь цяжар працы клаўся на плечы яго дзяцей.

Апроч Андрэя, у сям'і былі яшчэ адзін брат, Пётра, і дзве сястры – Домна (1922 г.н.) і Марыя (1928 г.н). Жылі даволі бедна. Часам не было нават добрага абутку для дзяцей.

З абуткам звязаная містычная, як лічыў сам дзед, хоць і быў закаранелым атэістам, гісторыя. Калі ў дзяцінстве каля яго Забарэчча спыніўся цыганскі табар і адзін з цыганоў раздзеўся, каб пакупацца, дзед падпільнаваў момант і… украў яго боты. Цыган бачыў гэта і, злавіўшы малога, папрасіў вярнуць іх. Васіль пачаў аднеквацца, але цыган не паверыў і прадрок за гэты ўчынак цяжкі лёс яму і яго нашчадкам. "Эх, не боты былі, а – цуд, – успамінаў дзед. Бліскучыя, скураныя – мара. За іх і не тое сцерпіш!" Вось і думай…

Напярэдадні была сярэдзіна 1930-х, пачатак масавых рэпрэсій. Бацьку, маці і дзяцей раскулачылі і выслалі ў Сібір. Лёс дазволіў маці і сёстрам вярнуцца ў роднае Забарэчча. Сляды бацькі зніклі.

Пётра і Васіль пасля некалькіх год прымусовага пасялення зрабілі спробу адшукаць яго, але дарэмна. Дарэчы, Пётра ажаніўся ў Свярдлоўску (Екацярынбург) і застаўся там дажываць век. Васіль жа падаўся шукаць бацьку на Далёкім Усходзе.

У 1938 годзе дзед паступіў у Канскі сельгастэхнікум і пасля яго заканчэння працаваў механікам у горадзе Вялікі Улуйск па сакавік 1939 года, калі яго прызвалі ў савецкае войска.

Там лёс дзеда быў таксама звязаны з аўтамашынамі, як і ўсё астатняе жыццё. Адно тое, што стаж кіроўцы ў яго адлічваўся з 15 чэрвеня 1939 года, шмат пра што гаворыць. Ён валодаў навыкамі кіравання і рамонту амаль усіх колавых аўтамашын былога СССР. Вельмі любіў свой матацыкл "Днепр" 1942 г.в., з якім не разлучаўся і нават дзесьці за месяц да таго, як яго не стала, ліха ездзіў на ім па Лебедзеве.

Лёс адразу падкінуў выпрабаванне, бо час прызыву ў войска супаў са знакамітымі баямі на Халхін-Голе, у якіх дзяду як аўтамеханіку прыйшлося паўдзельнічаць. Яны працягваліся з вясны аж да верасня 1939 года. І гэта было першае баявое хрышчэнне.

Да самага пачатку вайны Васіль служыў аўтамеханікам у 203-м асобным стралковым батальёне, з чэрвеня 1941 года па май 1942 – электрамеханікам у 211-м артылерыйска-кулямётным батальёне, з мая 1942-га быў камандзірам стралковага аддзялення 1408-га стралковага палка – яму было прысвоенае званне старшы сяржант.

У той час на Далёкім Усходзе ўсе знаходзіліся ў чаканні нападу Японіі на тэрыторыю СССР і адбываліся пастаянныя ўзброеныя правакацыі. У чэрвені 1944 года з боекамплекта аддзялення, якім камандаваў Васіль, знікла баявая граната. Урэшце, нехта падкінуў яе ў дзедаву тумбачку і пры праверцы яна была знойдзеная. Яго абвінавацілі ў дыверсіі, аднак да трыбунала справа не дайшла. Васіля панізілі ў званні да сяржанта, знялі з пасады камандзіра стралковага аддзялення і перавялі ў 1474-ю асобную роту сувязі, дзе ён даслужваў аўтамеханікам ажно да дэмабілізацыі.

Наступіў жнівень 1945 года, і СССР пачаў наступальныя дзеянні супраць японцаў. Васіль удзельнічаў у знакамітай Маньчжурскай аперацыі. Памятаю, што расказваў дзед, як бывала пад колы савецкай вайсковай тэхнікі кідаліся японцы, абвязаныя выбухоўкай, пераапранутыя ў кітайскіх сялян. Гэта былі так званыя камікадзэ.

Усе жылі, як на іголках, бо японцы, хоць і не мелі суперсучаснай зброі, але заўсёды адрозніваліся фанатычнай адданасцю сваёй Радзіме.

Быў узнагароджаны ордэнам Вялікай Айчыннай вайны II ступені, медалём "За перамогу над Германіяй", іншымі ўзнагародамі. За выдатныя баявыя дзеянні супраць японскіх узброеных сіл на Далёкім Усходзе ў складзе Першага далёкаўсходняга фронту загадам №372 Іосіфа Сталіна сяржанту Васілю Казлоўскаму аб'яўленая падзяка. Дэмабілізаваны ў лістападзе 1945 года ў званні сяржанта.

## Пасляваеннае жыццё

Пасля вайны, у 1946-м, вярнуўся на Беларусь, працаваў шафёрам у Маладзечанскім райспажыўтаварыстве. У 1949 годзе перабраўся на працу на цагельню ў Мароські, дзе і сустрэў маю бабулю – маладога фельчара Галіну Шыманскую. У тым жа 1949 годзе яны ажаніліся і ў іх нарадзілася дачка – мая родная цётка Людміла Казлоўская (Савельева). У 1955 нарадзілася мая маці Таццяна Казлоўская (Курбака).

З вайны Васіль вярнуўся на японскім грузавіку "Міцубісі". У той час не толькі японскія аўтамабілі былі вялікай рэдкасцю, але і ўвогуле колькасць грузавога транспарту на ўвесь раён не перавышала пяці адзінак.

З гэтым звязаны камічны момант, калі майго дзеда швагра папрасіў перавезці мэблю з Маладзечна ў Лебедзева. Добра заклаўшы за каўнер у "Блакітным Дунаі" – так тады называлася прывакзальная кавярня, – яны рушылі па апоўначы у дарогу і, што ты будзеш рабіць, сутыкнуліся з іншым грузавіком. З сустрэчнай машыны выскачыў капітан з расшпіленай кабурой і пачаў крычаць: "Застрэлю цябе мала. Пару машын у раёне – і не змаглі размінуцца".

Пасля вайны дзед працаваў спецыялістам па колавай тэхніцы ў шэрагу арганізацый. Ніколі не пераставаў самаадукоўвацца. У 1968 годзе скончыў Беларускі дзяржаўны інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі.

З мая 1950 года ўступіў у кампартыю. Хацеў і раней, але той факт, што сям'я была калісьці рэпрэсаваная, перашкаджаў яму. Дарэчы, у камсамол па маладосці яго так і не прынялі. Гэта стварала ў жыцці сур'ёзныя праблемы, у тым ліку і ў кар'еры.

Былі моманты, калі ледзь не выкінулі з партыі. Проста на пахаванні Васілю дарučылі несці крыж, а пасля "крамольнае" фота нехта паклаў на стол у парткаме (яму яго потым падарылі – на памяць). У другім выпадку, з "цяжкай галавой" пасля свята павітаўся з начальнікам словамі "Хрыстос уваскрос!".

У 1973 годзе ў яго дактары выявілі рак на першай стадыі. Ён назіраўся ў Маладзечне, Вілейцы, і прагнозы медыкаў былі несуцяшальныя. Як сказаў тады адзін з дактароў: "Купляй дамавіну, мужык".

Дзед кінуў курыць. Усё сямейства жыло перадпахавальнымі настроямі, але ў 1976 годзе, паехаўшы на абследаванне ў Мінск, было ўстаноўлена, што рак быў зафіксаваны памылкова. Ад душы адлягло, але пачак цыгарэт, скінуты дзедам з маладзечанскага пуцеправода, не трапіў у яго кішэню больш ніколі. Няшчасце дапамагло...



Фота забяспечана Вячаславам КУРБАКАМ.

**Васіль Казлоўскі з жонкай Галінай. Мароські Маладзечанскага раёна. Пачатак 90-х.**

У 1976 годзе Васіль выйшаў на пенсію па інваліднасці. Але сумаваць не даводзілася. Сельская гаспадарка і амаль гектар зямлі з агромністым садам – рэцэпт ад суму.

Сям'я таксама не заставалася ў баку. У 1962 годзе была пабудаваная вялікая хата ў Лебедзеве. У дачок былі ўсе ўмовы, каб атрымаць добрую адукацыю. Абедзве скончылі Беларускі дзяржаўны медыцынскі інстытут.

Цяжка дзед перажываў канец 80 – пачатак 90 гадоў. Распаўся СССР, які ён любіў, за які ваяваў і які дапамагаў адбудоўваць пасля вайны.

Апошнія гады жыцця прыйшлося дажываць удаўцом. У 1995 годзе памерла мая бабуля, і, як кажуць, абваліліся тыя тры вуглы, якія трымае жонка ў доме. Але дзед храбрыўся і казаў мне, што "дажыве да міленіуму". Але гэтаму не суджана было збыцца. Трэцяга лістапада 1999 года яго не стала.

...Я рэгулярна прыбіраю яго магілу, прыношу кветкі, на 9 мая нашу Георгіеўскую стужку. Дарэчы, калі цікава, нават у сусветна вядомай гульні Word of tanks змагаюся пад логінам vasia_kozlovski – у знак павагі да яго баявых дзён.

**Больш фота на сайце erh.by**

**Вячаслаў КУРБАКА, Маладзечна.**

■ КАЛЯНДАР

**16 лістапада.** 120 гадоў з дня нараджэння Леанілы Чарняўскай, беларускай пісьменніцы. Скончыла Марыінскае вышэйшае вучылішча ў Вільні. Аўтар чытанак "Родны край", кніг "Дзяціныя гульні", "Варка", "Андрэйка", "Сталёвы конь", "Падарожніца" і інш. Творчасці пісьменніцы (жонкі Максіма Гарэцкага) было ўласцівае тонкае адчуванне роднага слова, добрае веданне псіхалогіі дзіцяці і дарослага.

***

**125 гадоў** з дня нараджэння Вінцэся Гадлеўскага (1885 – 1942), грамадскага і рэлігійнага дзеяча. Скончыў Віленскую каталіцкую духоўную семінарыю (1912) і Пецярбургскую каталіцкую духоўную акадэмію (1916). Адзін з першых пачаў служыць у касцёле па-беларуску. Закатаваны немцамі ў Трасцянцы (пад Мінскам).

***

**18 лістапада.** 130 гадоў з дня нараджэння Язэпа Лёсіка (Іосіфа Юр'евіча, 1883 – 1940), беларускага палітычнага і грамадскага дзеяча, мовазнаўца, пісьменніка, педагога, акадэміка Акадэміі навук Беларусі.

***

**19 лістапада.** 105 гадоў з дня нараджэння Міколы Засіма (Мікалая Арцёмавіча) (1908 – 1957), беларускага паэта, крытыка.

***

**20 лістапада.** 190 гадоў з дня нараджэння Мікалая Чагіна (1823 – 1909), акадэміка архітэктуры. З 1852 года працаваў на Беларусі і ў Літве. Паводле яго праектаў пабудавана і рэканструявана шмат цэркваў, у тым ліку ў Ашмянах, Гродне. Перабудаваная Петрапаўлаўская царква ў Мінску.

***

**21 лістапада.** 120 гадоў з дня нараджэння Уладзіслава Стрэмінскага (1893 – 1952), вядомага мастака-авангардыста. Нарадзіўся ў Мінску. Вучыўся ў свабодных мастацкіх майстэрнях пад кіраўніцтвам Казіміра Малевіча. Быў яго сябрам і ўзначальваў мастацкія цэнтры ў Смаленску, Віцебску, Бабруйску. Значная частка яго творчай біяграфіі звязана з Вілейкай, дзе працаваў выкладчыкам у польскай гімназіі і быў галоўным мастаком Вілейкі. Тут ён стварыў адзін з вядомых цыклаў работ пад назвай "Заходняя Беларусь". У 1939 годзе пераехаў у Польшчу, дзе ў горадзе Лодзь на аснове яго работ быў створаны музей. Ён стаў галоўнай фігурай польскага авангарда 20 стагоддзя.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

ЧЫТАЧ ЗАДАЕ ПЫТАННЕ

# “Моладзевы парк” па вуліцы Міру. Няма праблем?



Фота Наталлі ТУР.

Некалькі кінутых пакетаў могуць стаць пачаткам звалкі.

**МАЛАДЗЕЧНА. Горы смецця, гразь, паваленыя дрэвы, вялізныя ямы, залітыя вадой. Так апісала парк па вуліцы Міру наша чытачка Святлана Мацюшонак.**

– Парк знаходзіцца ў самым цэнтры горада, а там не тое, што вечарам, удзень прайсці страшна. Мы жывём непадалёк, у гарадскі парк ісці далёка, таму гуляем з дзецьмі тут. Але дзіця ўвесь час даводзіцца трымаць за руку. Баюся, што ў яму зваліцца ці кінутай бутэлькай парэжацца. А тым, хто тут гуляе з дзіцячымі вазочкамі, увогуле не пазайздросціш! Адкажыце, як гэта дапусцілі? Няўжо нельга навесці парадак, паставіць сметніцы, лаўкі і ліхтары, каб людзі змаглі выйсці пагуляць, падыхаць паветрам? Месца прыгожае, касцёл побач.

На пытанні адказвае начальнік аддзела зялёна-паркавай гаспадаркі прадпрыемства “Камунальнік” **Наталля Каранькова:**

**– Наталля Іванаўна, ці ведаеце вы пра праблему добраўпарадкавання парку?**

– Не бачу я там ніякай праблемы. Па маіх звестках, там тэрыторыя для выгулу сабак агароджаная, ёсць там і лаўкі.

Між іншым, толькі па ўспамінах старажылаў гэтага раёна ўдалося высветліць, што калісьці, гадоў з дзесяць таму, тут сапраўды была тэрыторыя для выгулу сабак, стаялі драўляныя бар’еры.

**– Я была ў гэтым парку, заўважыла, што тэрыторыя прыбраная толькі ля абочын, а смецце, лісце, калі прайсці ўглыб парку, не прыбіраецца зусім.**

– А навошта паўсюль вылізваць гэта лісце? Што, у нас у горадзе больш няма месцаў, якія варта прыбіраць?

А што пра гэта думаеце вы? Выказвайцеся ў каментарах на нашым сайце.

**Шмат фота на сайце**




**Наталля ТУР.**



ДАБРАЧЫННАСЦЬ

## Дапамажыце Лізе з Турэц-Баяраў зберагчы вочка!

**МАЛАДЗЕЧНА. У рэдакцыю звярнулася мама Лізы Пільсці, якой 1 сакавіка споўніўся годзік.**



“Звяртаюся да вас з бязмежнай надзеяй. Наша гісторыя, мабыць, падобная да сотні іншых, але, як і для кожнай мамы, для мяне гэта вялікі боль і адчай.

Мяне завуць Наталля, мне 28 год. Цяпер у дэкрэтным па доглядзе за дачкой. Мужа завуць Дзяніс, яму 29, працуе зборшчыкам пластыкавых вокнаў. Мы звычайная беларуская сям’я, у якой выхоўваем дваіх дзетак. Сыну Данілу шэсць год.

Дачцэ Лізачцы паставілі дыягназ: злаякасная пухліна сятчаткі вока.

Ад мая яна ўжо прайшла чатыры блокі хіміятэрапіі ў Бараўлянах. Практычна прайшла касавокасць, якая з’явілася з хваробай. Але пухліна застаецца актыўнай. Далей беларускія дактары прапаноўваюць толькі выдаленне вока.

Мы адмовіліся ад аперацыі і паехалі на кансультацыю ў Берлін, у клініку Westend. 16 верасня там правялі першую працэдуру лазернай тэрапіі, якая каштавала 920 еўра. Яна дала вынік. У кастрычніку была другая працэдура, у лістападзе – трэцяя. У вочку дзве пухліны, і адна з іх пачала памяншацца.

Наступная паездка ў Берлін прызначаная на 16 снежня. Кожныя тры тыдні неабходна заплаціць 620 еўра за лячэнне, пералёт, пражыванне, паслугі перакладчыка. Неабходна доўгатэрміновае лячэнне. Магчыма, цягам года ці яшчэ больш. З дапамогай лазера нямецкія дактары спадзяюцца зрабіць пухліну мёртвай (неактыўнай).

Апошняе абследаванне паказала, што пухліна перастала расці, і гэта ўжо вялікі вынік! А каб дасягнуць выздараўлення, кожныя тры тыдні мы мусім збіраць 1 000 еўра на ўсе выдаткі

Дапамажыце, калі ласка, сям’і захаваць вока малодшай дачушцы. Загадзя – вялікі дзякуй!”

Дабрачынныя рахункі адкрытыя ў філіяле №601: г. Маладзечна, вул. Прытыцкага, 13; **УНП 600198997; МФО 153001769:**

**– рублі** – транзітны рахунак №3819382105556 на дабрачынны рахунак №000018 у філіяле №601; бестэрміновы

– еўра – транзітны рахунак №3819382108407 на дабрачынны рахунак №000008 у філіяле №601, дата заканчэння дзеяння дагавора дабрачыннага рахунка 30.09.2014

**– долары ЗША** – транзітны рахунак №3819382108407 на дабрачынны рахунак №000092 у філіяле №601, дата заканчэння тэрміну дагавора дабрачыннага рахунка 30.09.2014

Прызначэнне плацяжу: Для залічэння на дабрачынны рахунак Пільсці Наталлі Іванаўны – збор сродкаў для правядзення аперацыі ў Германіі дачцэ Пільсці Лізавеце Дзянісаўне.

Адрас для паштовых пераводаў: **222316, Мінская вобл., Маладзечанскі р-н, в.Турэц-Баяры, вул.Цэнтральная, д.7, кв.56.** Пільсць Наталля Іванаўна.

**Аддзел інфармацыі.**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

### Збіў на пешаходным пераходзе цяжарную жанчыну

**МАЛАДЗЕЧНА**. Аварыя здарылася вечарам 9 лістапада на перакрыжаванні вуліц Будаўнікоў і Багдана Хмяльніцкага.

32-гадовы маладзечанец ехаў на “Міцубісі” ў бок вуліцы Буйло. У гэты час па пешаходным пераходзе ішла 23-гадовая цяжарная жанчына.

Кіроўца не прапусціў яе і наехаў. Ад сутыкнення маладзечанка атрымала рану сцягна. Жанчыну шпіталізавалі ў паталагічнае аддзяленне маладзечанскай бальніцы.

### Перакуліўся на матацыкле ў сваім двары

**МАЛАДЗЕЧНА**. Днём у пятніцу, 9 лістапада, 15-гадовы хлопец у двары свайго дома ехаў на матацыкле.

На мокрым пакрыцці хлопец не справіўся з кіраваннем і перакуліўся.

Кіроўца атрымаў закрыты пералом ступні. Яму наклалі гіпс і адпусцілі дадому.

Здарэнне адбылося ў вёсцы Старынкі Алёхнавіцкага сельсавета.

**Сяргей БАРТОШ, дзяржаўтаінспектар Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**

СУСТРЭЧЫ

# Жыццёвае і фантастыка ў "Белай Жанчыне" Дзмітрыя Пятровіча

**МАЛАДЗЕЧНА. У аўторак, 5 лістапада, у цэнтральнай бібліятэцы імя Багдановіча прайшла сустрэча, прысвечаная прэзентацыі кнігі Дзмітрыя Пятровіча "Белая Жанчына".**


Фота Настассі РОЎДЫ.

Аўтар перадае кнігу са сваім аўтографам аднаму з чытачоў, што сабраліся на сустрэчы.

Першае выданне кнігі выйшла яшчэ летась. Тады з ёй спадар Дзмітры прыязджаў у Маладзечна таксама.

– У нас у бібліятэцы ўжо нават больш, чым проста некалькі асобнікаў, – кажа загадчыца аддзела абслугоўвання і інфармацыі цэнтральнай бібліятэкі **Таццяна Закрэўская**. – Вось і цяпер мы заказалі дзесяць асобнікаў, праўда, не толькі на нашу бібліятэку. Летась таксама набывалі кнігі.

Цяпер спадар Дзмітры прывёз з сабой перавыданне кнігі "Белая Жанчына" (выдавецтва "Чатыры чвэрці"), што пабачыла свет сёлета напрыканцы вясны.

**Першае выданне кнігі "Белая Жанчына" сёлета ў Быхаве атрымала рэспубліканскую літаратурную прэмію "Залаты Купідон". Яно ўзяло дыплом другой ступені як лепшы твор 2012 года.**

– Тыраж яе невялікі – усяго 300 асобнікаў, – кажа Дзмітры Пятровіч. – Але для мяне гонар, што прапанову зрабіла само выдавецтва. Для мяне гэта вялікая падтрымка. Налета планую выданне зборніка прозы "Анёлы", дзе будуць і аповесці з "Белай Жанчыны", і новыя творы. Яшчэ збіраюся выдаць зборнік паэзіі "Адзіноты пажоўклыя дні".

### Колькі слоў пра "Белую Жанчыну" ад аўтара

– Пра што гэта кніга? Яна – шчырая споведзь чалавека, які ганарыцца тым, што ён беларус. Ганарыцца сваім родным горадам Заслаўем, дзе нарадзіўся, ганарыцца тым, што ў нас шмат цудоўных мясцін. У кнізе шмат дзівосаў, пра якія мала хто ведае. Адкуль назва? "Белая Жанчына" – міфічны персанаж. Ды і ўвогуле кніга – міфічна-прыгодніцкая аповесць.

Там ёсць матэрыял выключна новы для беларускай прозы: матэрыял пра спелеолагаў, апантаных даследчыкаў пячор. Я хачу паказаць чытачам тое звычайнае, што робіць жыццё незвычайным. Калі ў мяне пытаюцца, адкуль вы бераце вашы гісторыі, я адказваю: з жыцця. Кожны твор, пра які я сёння гавару, прысвечаны звычайнаму чалавеку. Я лічу, што самае галоўнае – прымушаць чытача думаць. І рабіць гэта далікатна.

Нельга ліць бруд. Для нас сёння гэта вельмі актуальна. Свет жорсткі, але пісьменнік не мае права быць жорсткім са сваім чытачом. Таму жыццёвае я спалучаю з фантастычным.

У кнізе шмат аўтабіяграфічнага. Я прапаную спачатку чытачу пазнаёміцца з кнігай, а потым ужо разам з ім разважаць. Скажу адно: у кожным прыгодніцкім творы шмат таго, што адбывалася насамрэч. Няхай чытач сам пазнаёміцца з кнігай і сам зробіць выснову: што ў ёй фантастычнае, а што – жыццёвае. Для мяне вельмі важна меркаванне майго чытача.

**Даведка "РГ". Дзмітры Леанідавіч Пятровіч.** Паэт, празаік, кампазітар. Нарадзіўся 29 красавіка 1971 года ў Заслаўі. Скончыў музычна-педагагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага педуніверсітэта імя М. Танка і факультэт беларускай філалогіі і культуры гэтай ВНУ. Магістр філалагічных навук, член Саюза пісьменнікаў Беларусі. Вядучы стылістычны рэдактар газеты "Звязда". У 2010 годзе пабачыў свет яго паэтычны зборнік "Белая квецень кахання".

**Настасся РОЎДА.**

ВІЗІТЫ

# Саламяны павук крануў японскую мастачку

**МАЛАДЗЕЧНА. У нядзелю, 3 лістапада, у музычным каледжы імя Агінскага прайшла выстава "Японская восень-2013". Ганаровым госцем была мастачка і выкладчыца Такійскага інстытута выяўленчага мастацтва Набо Сіманака.**

Прыехаўшы ў каледж, Набо Сіманака і яе спадарожніцы – асістэнт Міякава Сано і перакладчыца – сталі ўважліва аглядацца і ўслухоўвацца ў музыку, якая даносілася з аднаго кабінета. А калі зайшлі ў музей, то адразу ж задалі пытанне на японскай мове: "А ці можна гэта ўсё фатаграфаваць?" І па памяшканні пранесліся яркія ўспышкі фотакамеры.

Затым выкладчыца аддзялення дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва **Лізавета Чырвонцава** пачала распавядаць, якія менавіта творы мастацтва размешчаныя на выставе, хто іх аўтар.

Найбольшую зацікаўленасць выклікалі мудрагелістыя выявы з саломкі, якія звісалі са столі. Іх звычайна называюць "павукі". У гэтых "павукоў" былі настолькі доўгія лапкі, што адзін з іх крыху заблытаўся ў прычосцы галоўнай госці.

Але найбольш увагі японская мастачка ўдзяліла беларускай выцінанцы. Незвычайна чароўныя творы для выставы падрыхтавалі навучэнцы першага курса каледжа, а выглядалі яны, нібы ад рукі майстра. На выявах былі адлюстраваныя беларускія святы – Каляды, Вялікдзень, Радаўніца, Купалле, нашы нацыянальныя касцюмы, сімвалы кахання і шчасця, беларускія язычніцкія багі. Госці шчыра захапляліся творамі і не хавалі ўражанняў.

Затым мы ўсе падняліся на другі паверх залы. Там таксама была выстава выцінанак і вырабаў з саломкі. Набо Сіманака адзначыла, што ў Японіі пакуль не выдадзена ніводнай кнігі, прысвечанай выцінанцы.

Пасля гэтага госця правяла майстар-клас. У Японіі яна адраджае даўно забыты занятак "манкіры-асобі" (гульню выразання гербаў з паперы). Але не проста адраджае, але і адкрывае яго новыя магчымасці. Яе асноўная мэта – ўдыхнуць новае жыццё ў культуру, у якой людзі атрымліваюць задавальненне ад розных незвычайных узораў.

Наша госця кажа так: "Для таго, каб атрымаўся такі твор мастацтва, можна выкарыстоўваць выявы розных кветак, жывёлін, птушак, нават прадметаў".

Набо Сіманака была не першы раз у Беларусі, але майстар-клас у нашай краіне ладзіла ўпершыню.

**Кацярына КАСЦЕВІЧ,**
**школа журналістыкі пры "РГ".**


Фота Дзмітрыя АРЦЯМЁНАВА.

Японскія госці пра выставу ў музычным каледжы: "Неверагодна прыгожа"!


Фота Дзмітрыя АРЦЯМЁНАВА.

Лізавета Чырвонцава і Набо Сіманака.

МЕМАРЫЯЛЫ

## Адкрылі памятную дошку прапаршчыку Рыгору Маскалевічу, які загінуў у Афганістане



Фота забяспечана Ігарам АРАБЕЕМ.

**МАЛАДЗЕЧНА. У Палачанскай сярэдняй школе 6 лістапада адкрылі памятную дошку прапаршчыку Рыгору Маскалевічу, які загінуў пры выкананні інтэрнацыянальнага доўгу ў Афганістане.**

Рыгор Маскалевіч правучыўся ў Палачанскай сярэдняй школе 8 гадоў. У 1978 годзе скончыў Вілейскае ПТВ-16. У той жа год Вілейскі райваенкамат прызваў яго на службу.

Пасля тэрміновай службы працаваў токарам на вытворчым аб'яднанні "Электрамодуль". У 1985 скончыў школу прапаршчыкаў.

12 студзеня 1986 года прапаршчык Маскалевіч ехаў у калоне, якую абстралялі душманы. Яго машыну падбілі, і яна звалілася ў бездань.

Рыгор Маскалевіч загінуў у 26 гадоў. За мужнасць і гераізм яго пасмяротна ўзнагародзілі ордэнам Чырвонай Зоркі.

**Даведка "РГ". Афганская вайна (1979-1989)** – ваенны канфлікт на тэрыторыі Дэмакратычнай Рэспублікі Афганістан урадавых сіл Афганістана і абмежаванага кантынгенту савецкіх войск, з аднаго боку, і шматлікіх узброеных фарміраванняў афганскіх маджахедаў (душманаў), якія карыстаюцца палітычнай і фінансавай падтрымкай вядучых дзяржаў НАТА і ісламскага свету, з другога боку. **Душманы** – афганскія маджахеды (змагары за веру) – члены нерэгулярных узброеных фарміраванняў, матываваных радыкальнай ісламскай ідэалогіяй, арганізаваных у адзіную паўстанцкую сілу ў перыяд грамадзянскай вайны ў Афганістане ў 1979-1992 гадах.

**Аддзел інфармацыі.**

ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА

# Кропка ў футбольным сезоне-2013 пастаўленая

**МАЛАДЗЕЧНА. На жаль, сезон скончыўся не так, як хацелася б усім аматарам маладзечанскага футбола. У гульні, якая адбылася 10 лістапада, каманда "Маладзечна-2013" саступіла камандзе "Нёман" з горада Масты з лікам 4:1.**

Але лік гульні, мяркую, настрой нікому не сапсаваў, таму што на стадыёне, акрамя гульні, адбываліся іншыя цікавыя рэчы. Але аб усім па парадку.

Надвор'е, канешне, зусім не спрыяла. З раніцы зарадзіў дождж. Магчыма, гэта, а магчыма, адчуванне таго, што гульня апошняя, адыгралі сваю ролю.

Гульня была млявая, павольная. Толькі на 26-й хвіліне "Нёман" адкрыў лік матча. Дзевяць хвілін спатрэбілася камандзе "Нёман", каб павялічыць разрыў у ліку. На 35-й хвіліне лік становіцца 2:0.

Пасля другога гола маладзечанцы актывізуюцца, пачынаюць атакаваць вароты каманды-саперніцы. І гэта прыносіць доўгачаканы вынік. На 42-й хвіліне матча **Аляксандр Працкевіч** скарачае разрыў у ліку. Заўзятары "Маладзечна-2013" крычаць і радуюцца, а варатар каманды "Нёман" прымае гол вельмі блізка да сэрца.

Гучыць свісток на перапынак. Чую, як у фанацкім сектары ідзе размова пра тое, што маладзечанцы абавязкова адыграюцца: "Раз пачалі забіваць, то цяпер гульня пойдзе!"

Але, на жаль, словы заўзятараў не спраўдзіліся. Пасля перапынку ні тэмп, ні настрой гульні не змяніўся. Атакі няўпэўненыя, хуткасць гульні невялікая, гульцы раз-пораз памыляюцца. Пасля чарговага прызначанага штрафнога ўдару ў нашы вароты, на 57-й хвіліне матча, трэнер Маладзечна вырашае зрабіць першую замену. Поле пакідае галкіпер **Андрэй Пуляк**, яму на змену выходзіць **Міхаіл Каплінскі** і ў гэтую ж хвіліну трэці мяч трапляе ў вароты маладзечанцаў.

І зноў "Нёманцы" не прымусілі сябе доўга чакаць. Чатыры хвіліны пратрымаўся лік 3:1. І ўжо на 61-й хвіліне матча ён стаў 4:1. І не змяніўся да канца гульні.

"Маладзечна-2013" заканчвае сезон на дзясятым радку турнірнай табліцы. А каманда "Нёман" з Мастоў сваёй перамогай забяспечвае сабе пераход у Першую лігу.

Як ні дзіўна гэта гучыць, але толькі пасля фінальнага свістка суддзі пачаўся сапраўдны рух на стадыёне. Гэта заўзятары маладзечанцаў падрыхтавалі сваёй камандзе сюрпрыз. Як толькі гульцы каманды, па традыцыі, падышлі да 12 сектара, каб падзякаваць сваім заўзятарам за падтрымку, на сектары ўспыхнула піратэхніка. Відовішча, скажу вам, зачароўвае. Успамінаю словы галоўнага трэнера "Маладзечна-2013" **Дзяніса Мятліцкага**, які амаль у кожнай нашай размове не забываўся падзякаваць заўзятарам сваёй каманды: "Дзеля такой падтрымкі і варта гуляць!" Цяжка не пагадзіцца.

Заўзятары, у сваю чаргу, таксама падзякавалі трэнеру за тое, што яго намаганнямі каманда "Маладзечна" ўсё ж такі іграла ў u'nsv сезоне.

Развітваючыся з камандай да наступнага сезона, яны таксама павіншавалі і ўзнагародзілі лепшых, на іх погляд, футбалістаў. Сярод фаварытаў аказаліся **Дзяніс Жыліч, Юры Бугай, Павел Суман, Андрэй Шаблінскі і Андрэй Пуляк.**

Пакідаючы стадыён, задаю пытанне заўзятару **Мікіту:**

**– Чым цяпер будуць займацца заўзятары?**

– За сезон назапасілася столькі неадкладных спраў, што цяпер буду займацца толькі імі. Працаваць… і рыхтавацца на наступнага сезона.

**Наталля ТУР.**



Фота Наталлі ТУР.

Каманда "Маладзечна-2013" развіталася з аматарамі футбола да будучага года.




Фота Наталлі ТУР.

Падзякаваць за гульню камандзе можна і так.

МІНІ-ФУТБОЛ

## Турнір сярод дзяцей і падлеткаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Турнір сярод дзяцей і падлеткаў, якія не займаюцца ў спецыялізаванай спартыўнай школе, правёў фізкультурна-спартыўны клуб "Агеньчык".**

Ва ўзроставых групах 2000-2001 гадоў нараджэння, а таксама 2002-2003 гадоў нараджэння сабралася па 18 каманд з горада і раёна. Хаця хлопцы і не трэніруюцца ў ДЮСШ, але самавучкамі іх назваць нельга, бо праходзілі заняткі ў спецыялістаў фізкультурна-спартыўнага цэнтра дзяцей і моладзі пры аддзеле адукацыі.

На базе СШ №14 і Чысцінскай СШ прайшлі папярэднія гульні ў трох падгрупах, а потым фінальныя турніры сярод пераможцаў груп.

Выніковае размеркаванне месцаў сярод старэйшых груп:

1. Чысцінская СШ
2. СШ №14
3. Гімназія-каледж

Выніковае размеркаванне месцаў сярод малодшых груп:

1. Зборная ФСЦДзМ
2. Зборная "Агеньчыка"
3. Чысцінская СШ

Вельмі ўпартымі сталі матчы паміж самымі моцнымі камандамі. Так, чысцінцы перамаглі чатырнаццатую школу з лікам 1:0, а зборная цэнтра была мацнейшай за зборную "Агеньчыка" з лікам 3:2.

Арганізатары вызначылі лепшых гульцоў турніру. Сярод старэйшых хлопцаў гэта **Раман Бурак, Уладзіслаў Сакалоў** і **Іван Горбач**. Сярод малодшых – **Лявон Расохаў, Андрэй Дараховіч** і **Міхаіл Шаціла.**

Лепшыя каманды, а таксама асобныя гульцы атрымалі грашовыя прызы і спецыяльна падрыхтаваныя граматы.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

НАВІНЫ

## ФК "Смаргонь" прайграў "Лідзе" 0:3

**СМАРГОНЬ.** У матчы 28-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе футбольны клуб "Смаргонь" гуляў 9 лістапада яшчэ з адным прадстаўніком Гродзенскай вобласці.

Дамашняя гульня з ФК "Ліда" не задалася: смаргонцы прайгралі 0:3. Першы гол прапусцілі ў канцы першага тайма, потым – на 58-й хвіліне. Апошні мяч патрапіў у вароты "Смаргоні" напрыканцы матча.

Цяпер ФК "Смаргонь" займае ў турнірнай табліцы сёмае месца.

**Аддзел інфармацыі.**

## "Першы Беларускі" – чэмпіён!

**ВІЛЕЙКА.** Адбыліся вырашальныя матчы чэмпіянату Вілейскага раёна па футболе. У матчы за трэцяе месца 3 лістапада "Механатроніка" (ранейшая назва каманды – "Фламетр") гуляла з СВК "Чырвоны". Асноўны час гульні завяршыўся ўнічыю 0:0, а ў дадатковы футбалісты "Механатронікі" забілі тры галы. Такім чынам, "Механатроніка" заняла трэцяе месца.

Фінальны матч адбыўся 7 лістапада. Хто зойме ў чэмпіянаце першае месца, а хто другое, высвятлялі каманды "Будэталі" і "Першы Беларускі". Матч завяршыўся з лікам 1:0 на карысць "Першага Беларускага".

– Адзіны гол забілі ў канцы першага тайма, – паведаміў старшыня Вілейскай раённай федэрацыі футбола **Ігар Шабан.** – У другім тайме "Буддэталі" мелі ініцыятыву, аказвалі ціск на вароты саперніка, але адыграцца не змаглі.

Пераможцы атрымалі кубак і граматы. Уручылі прызы таксама лепшым гульцам матча з дзвюх камандаў – **Максіму Чабрыцкаму** і **Віталю Куляшу.**

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

САЦЫЯЛЬНАЯ РАБОТА

# Праца з пажылымі: ад рукадзелля да камп’ютараў

**ВІЛЕЙКА. Што цікавае можа прапанаваць пенсіянерам Вілейскі тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва? Пра гэта расказала спецыяліст па сацыяльнай рабоце Марына Макарава:**

– Арганізуючы працу з пажылымі людзьмі, мы стараемся палепшыць і разнастаіць іх жыццё, падтрымаць псіхалагічна, пашырыць кола зносін, абудзіць цікавасць да жыцця і даць ім магчымасць адчуць сябе патрэбнымі грамадству.

У цэнтры створаны клубы і гурткі па інтарэсах для пажылых грамадзян, валанцёрскі рух сярод пажылых і “Школа здароўя”. Адзначу, што нашы спецыялісты штогод укараняюць інавацыйныя формы работы з пажылым насельніцтвам. Толькі за апошнія два гады былі арганізаваны і паспяхова працуюць: клуб для навучання камп’ютарнай грамаце “Майстар-NET”, творчая майстэрня “Надзея” для аматараў спеваў і літаратуры, гурток рукадзелля і “Школа здароўя” на базе валанцёрскага руху ў вёсцы Вязынь. У гуртку рукадзелля наведнікі не толькі вучацца чамусьці новаму, напрыклад, плесці з лазы, але і стараюцца дапамагчы іншым: вяжуць разнастайныя вырабы, якія збіраюцца перадаць у Куранецкі дом-інтэрнат для састарэлых і інвалідаў і іншыя сацыяльныя ўстановы.

Пры нашым цэнтры працуюць клубы “Залатая ўзрост” і “Дзеці вайны”. У першым аб’ядналіся пенсіянеры, у другім – дзеці вайны, вязні канцлагераў, жыхары блакаднага Ленінграда. Гэта аб’яднанні людзей, звязаных агульнымі інтарэсамі і захапленнямі. Штомесячныя сустрэчы ўдзельнікаў клубаў агорнутыя цёплай і сяброўскай атмасферай. Для большасці пажылых людзей гэтыя клубы – магчымасць пагутарыць, пабыць у коле блізкіх па духу, добра і карысна правесці вольны час.

Самым актыўным удзельнікам арганізуем наведванне выстаў і канцэртаў, прапануем адправіцца ў экскурсійныя паездкі па славутых мясцінах Беларусі.

**– Якія ж сярод вашых клубаў ці гурткоў найбольш папулярныя?**

– Клуб для навучання камп’ютарнай грамаце “Майстар-NET”. Ён запатрабаваны, на занятки прыходзіць шмат людзей, якія хочуць атрымаць новыя веды. Некаторыя потым працягваюць навучанне ў камп’ютарным гуртку “Атлантыда”, дзе яны павышаюць свой узровень валодання сучаснымі тэхналогіямі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ГУЛЯЙ З “РГ”

## Працягвайце выйграваць

**РЭГІЁН. На мінулым тыдні ў конкурсе “Гуляй з “РГ” перамагла маладзечанка Аляксандра. Яе адказы:**

1. У будынку драмтэатра ў той час, калі ў Гелянове быў польскі гарнізон, месцілася афіцэрскае казіно.

2. Уражанні пасля прагляду спектакля. Вельмі цікавая пастаноўка “Камедыя”. Паглядзела 22 кастрычніка. Выдатная гульня акцёраў **Сяргея Карзея** і **Алега Чэчанева**. Яскрава падкрэсленыя адметныя рысы героя Сяргея Карзея – Давіда. Добры настрой, станоўчыя ўражанні пасля наведвання тэатра застаюцца па сённяшні дзень.

3. Што б параілі палепшыць драмтэатру. Пажадала б, каб паставілі п’есу аб сучаснай моладзі, аб яе поглядах на жыццё. Зрэдку погляд на сябе з боку важнейшы за меркаванне любога настаўніка.

У падарунак яна атрымала білеты ў тэатр, музычны дыск і араматычную сумесь для дома.

Мы працягваем разыгрываць білеты на двух чалавек у Мінскі абласны драмтэатр, музычны дыск і салодкі падарунак.

Узнагароджаны будзе той, хто адкажа на пытанні найбольш поўна.

**Пытанні нумара:**

1. Як вы ацэньваеце вынік гэтага сезона для маладзечанскай каманды па футболе?

2. Якія акцёры Мінскага абласнога драмтэатра вам найбольш падабаюцца і чаму?

3. Чым для вас адметны драмтэатр у Маладзечне?

4. Пра што вы хацелі б пачытаць у навагоднім нумары газеты?

**Дасылайце адказы на электронную пошту regionnews@rh.by.**

Поспехаў!

**Аддзел інфармацыі.**

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 7 | | | | | 3 | | 6 | |
| | | | | | | | 7 | 5 |
| 1 | | | | | 9 | | | 3 |
| | | | 6 | | | | 1 | |
| 3 | | 6 | | | | 2 | | 4 |
| | 7 | | | | 8 | | | |
| 6 | | | 5 | | | | | 1 |
| 2 | 9 | | | | | | | |
| | 4 | | 9 | | | | | 6 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



ТВОРЧАСЦЬ

## Выйшла новая кніга мядзяльчаніна Аляксандра Быкава




**МЯДЗЕЛ**. На днях у мінскім выдавецтве “Каўчэг” выйшла новая кніга мядзяльчаніна члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Аляксандра Быкава. Зборнік вершаў “За межы круга” – гэта ўжо трэцяя кніга паэта.

У зборніку выбранай лірыкі змешчаныя вершы, якія напісаныя, у асноўным, на працягу апошніх 20-ці гадоў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

РЭПЕРТУАР

## Кінатэатр “Радзіма”, Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Фэнтазі, прыгоды “**Тор 2: Царства цемры**”, 3D (ЗША, 2013, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
15 лістапада – 16.30, 21.00
16 лістапада – 18.30, 21.00
17 лістапада – 16.00, 21.00
18-19 лістапада – 21.00
20 лістапада – 16.00
21 лістапада – 21.00
Кошт білета – 40 000-45 000 рублёў.

Гістарычная драма “**Распуцін**” (Расія, 2013, дзецям да 13 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
15 лістапада – 18.30
16 лістапада – 16.00
17-18 лістапада – 18.30
20-21 лістапада – 18.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Анімацыйныя прыгоды “**Джасцін і рыцары доблесці**”, 3D (Іспанія, 2013, да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
16-17 лістапада – 14.00
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Прыгоды “**Тры мушкецёры**”, 3D (Расія, 2013, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
19 лістапада – 18.30
20 лістапада – 21.00
21 лістапада – 16.00
Кошт білета – 40 000-45 000 рублёў.

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыйныя прыгоды “**Альфа і Амега: Клыкастая братва**” (ЗША)
16-17 лістапада – 15.00, 17.00
Кошт білета – 15.000

Драма, трылер “**Заложніца 2**” (Францыя)
15 лістапада – 17.30
16-17 лістапада – 19.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Камедыя, прыгоды “**Каханне з акцэнтам**” (Расія)
15 лістапада – 19.30, 21.30
16-18 лістапада – 21.30
19-20 лістапада – 19.30
21 лістапада – 21.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Трылер “**Без кампрамісаў**” (Вялікабрытанія, Францыя)
19-20 лістапада – 21.30
21 лістапада – 19.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Тэл. **: 8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

### Рэпертуар на лістапад

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

“**Вучань ведзьмака, альбо Бітва чарадзеяў**” (казка-страшылка), ідзе на рускай мове Сяргей Бялоў
15 пятніца 12.00

“**Казка пра чырвоную стужачку**” Алег Чэчанеў, Галіна Латышава
20 серада 12.40

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

“**На другі дзень Сёмухі**” (сцэнічны жарт у 3-х дзеях на драматургічнай аснове “Прымакоў” Янкі Купалы) Юры Вута
15 пятніца 19.00

ПРЭМ’ЕРА. “**Сямейны партрэт з пабочнай асобай**” (камедыя ў 2-х дзеях), Сцяпан Лабазёраў
19 аўторак 19.00

“**Банкет**” (сентыментальная камедыя), Ніл Сайман
20 серада 19.00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
Маладзечна, вуліца Чкалава, 7, тэл: **76-17-32, 75-24-17.** E-mail: modt@tyt.by.

## Мінскі абласны тэатр лялек “Батлейка”

“**Маленькая гісторыя** ” (музычная казка). Н.Гернэт.
17 лістапада – у 12.00.

Чакаем вас: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

ГАРАСКОП (15-21 ЛІСТАПАДА)



**Авен.** Настаў час, калі можна прыняць вернае рашэнне і здабыць немалыя жыццёвыя даброты ці зрабіць памылку і страціць усё, чым вы даражылі. Крытычна адносіцеся не толькі да наваколных, але і да сябе.



**Цялец.** Адкладзіце на потым любыя рашэнні, якія тычацца вашага асабістага жыцця. Падумайце аб новых шляхах вырашэння праблем.



**Блізняты.** Верагодна, у вашай галаве ўтвараецца хаос, які патрабуе навядзення парадку. Калі ёсць патрэба, выгаварыцеся, нават пакрычыце, але разбярыцеся ў адносінах з блізкімі людзьмі. Не трэба замоўчваць праблемы – гэта не лепшы выбар.



**Рак.** Прыслухайцеся да сябе, бо вам у галаву прыйдуць цікавыя ідэі, якія і рэалізуюцца, толькі трохі пазней.



**Леў.** Важна не толькі вырашыць цяперашнія праблемы, але і ацаніць, як абернецца сітуацыя ў будучыні. Вучыцеся глядзець на тое, што адбываецца, з вышыні птушынага палёту.



**Дзева.** Гэты перыяд выдатна падыходзіць для таго, каб узнавіць страчаныя сувязі. Таму напамінайце аб сабе, мірыцеся. Лёс вам у гэтым дапаможа.



**Шалі.** Вам будуць дарэчы такія словы: “Жыццё вельмі кароткае, каб яго траціць на дыеты, скупых мужчын і дрэнны настрой”.



**Скарпіён.** Вы вельмі пагружаныя ў матэрыяльныя справы, складаеце планы на будучыню, але не рашаецеся іх увасобіць у жыццё. А менавіта гэты час і спрыяльны для ажыццяўлення планаў.



**Стралец.** Калі вам удасца з гонарам вытрымаць удары лёсу, зоркі возьмуць вас пад сваю апеку і паклапоцяцца пра тое, каб далей складвалася ўсё ўдачна.



**Казярог.** Прыйшоў час, калі трэба змяніць свой лад жыцця. Не займайцеся справамі іншых людзей, няхай яны самі вырашаюць праблемы. Не давайце парады блізкім людзям. Яны не ўспрымаюць іх належным чынам.



**Вадалей.** Пастарайцеся пазбегнуць пераутамлення, забяспечце сабе максімум магчымасцей для паўнацэннага адпачынку. Пагрузіцеся ва ўспаміны, прааналізуйце сваё мінулае, дайце ацэнку ўчынкам.



**Рыбы.** Вас чакае доўгачаканы спакой і стабільнасць ва ўласным жыцці.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**





**Камент-эксперт**




Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420,** на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**


# Рэгіянальная газета


## НАДВОР'Е

**16 лістапада, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +0 | | +1 | | +5 | | +5 | |
| | +2 | | +1 | | +5 | | +5 | |
| | 751 | ↑ 2 | 745 | → 3 | 743 | → 4 | 746 | ↖ 4 |
| Вільня | +2 | | +1 | | +6 | | +4 | |
| | +3 | | +3 | | +7 | | +5 | |
| | 759 | ↗ 2 | 755 | → 5 | 751 | → 5 | 754 | ↑ 4 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 8.44
Захад 17.10
Даўжыня дня 8.26

Усход 16.42
Захад 7.10
Квадра 4

## ПРЫКМЕТЫ

- У лістападзе кладзі капусту ў кадзі.
- Лістапад снегу навее – хлеба прыбудзе, а вадой разальецца – летам сена набярэцца.

## Чытайце праз тыдзень:

- Як выгадна набываць крупы? Як правільна варыць кашы? Сакрэты для адказных гаспадынь.











## А ВЫ ВЕДАЕЦЕ, ШТО

* У Старажытнай Грэцыі заможныя бацькі купалі нованароджаных у аліўкавым алеі, каб у іх не раслі валасы.

* Больш за 2000 чалавек штодня атрымліваюць траўмы, працуючы з замарожанымі прадуктамі.

* Вашы рэбры рухаюцца з кожным уздыхам, пяць мільёнаў разоў на год.

* Паняцце "адмоўная лічба" ўвёў італьянскі купец Пізана ў 1202 годзе, каб абазначыць ім свае пазыкі і страты.

* Трое з шасці самых багатых людзей на планеце зарабілі свае грошы працай у IT-сферы.

* З 1 грама золата можна выцягнуць дрот даўжынёй 3,5 кіламетра.

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Дзеля чаго вы не пашкадавалі б уласнага жыцця?



**Наталля Лазарава, дворнік:**

– Мне здаецца, трэба жыць з вялікай любоўю, сілай і верай у сэрцы, каб і не давялося пра гэта думаць. Дзеля грошай, славы – проста смешна. У сваім жыцці я прайшла праз раскошу, багацце і вельмі моцна апякалася. Так што цяпер, маючы дзве вышэйшыя адукацыі, лаўлю кайф, калі проста прыбіраю вуліцы.



**Валянціна Дзедавец, пенсіянерка:**

– Рызыкаваць і ахвяраваць уласным жыццём можна толькі дзеля нечага ці некага самага дарагога. Я б не пашкадавала свайго жыцця дзеля сваіх дзяцей і ўнукаў.



**Алена Іванова, цырульніца:**

– Не пашкадавала б я свайго жыцця толькі дзеля сваёй дачушкі. Хаця, і для мамы сваёй таксама б не пашкадавала. Аддала б, не задумваючыся.



**Расціслаў Паплаўскі, навучэнец медкаледжа:**

– Толькі дзеля сваёй любімай дзяўчыны. Дзеля мамы не, бо я і ёсць сэнс яе жыцця. Яна б проста не прыняла такую ахвяру. А тое, што некаторыя самавольна рызыкуюць жыццём або ўвогуле пакідаюць яго праз фінансавыя праблемы, я лічу найвялікшым глупствам.



**Уладзімір Філіпаў, пенсіянер:**

– Толькі дзеля ўласных дзяцей.



**Зоя Зюба, пенсіянерка:**

– Якое філасофскае пытанне. Канешне, ёсць родныя і блізкія людзі, дзеля шчасця якіх уласнага жыцця не шкада. А вось ці адчуваюць яны тое ж па адносінах да цябе? Вось у чым пытанне.

**Падрыхтавала Наталля ТУР.**




Рэгіянальная газета

Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 46 (968) 15.11.2013.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 1037. Падпісана ў друк у 10.00 14.11.2013.

**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
Тэлефоны/факс: **(0176) 769667, 747100, 753841** (рэклама).
E mail: **regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by**
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.